КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 23 (295) ◂ 8 чэрвеня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



АЛЕГ ГУЛАК

Стар. 6

**ЖЫВУЦЬ, ХОЦЬ І НЕ ПАВІННЫ**

Не злічыць ініцыятыў чыноўніцтва, не ахапіць розумам гарэзлівыя праявы гэтага пастаўленага на службу народа калектыўнага інтэлекту

Стар. 5

**ВЫБРАЦЬ ФАЛЬШЫЎКУ**

У парламенцкай кампаніі ва Украіне можа з'явіцца мноства падстаўных апазіцыйных партый і кандыдатаў. Пра асаблівасці будучай кампаніі журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з кіеўскім журналістам Юрыем Дакукіным

Стар. 12

**НКУС СУПРАЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПАДПОЛЛЯ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ГАЛОЎНЫ ЦЕЛААХОЎНІК СТАЛІНА**

Нарыс Сяргея Чыгрына

▸ **З НАГОДЫ**

# АБВАЛУ ЧАКАЦЬ НЕ ВАРТА

Вольга ХВОІН

**Цягам апошніх тыдняў беларускі рубель у адносінах да долара дэманструе аслабленне. Паралельна падобныя змены адбываліся і на расійскім валютным рынку. «Тое, што мы цяпер назіраем, называецца кіраванай дэвальвацыяй», — гавораць маскоўскія аналітыкі. У Беларусі ж абмяркоўваюць прывязку курса беларускага рубля да расійскай плацежнай адзінкі.**




Ваганні курсу беларускага рубля аператыўна пракаментаваў прадстаўнік Нацбанку. У эфіры праграмы «Сфера інтарэсаў» на тэлеканале «Беларусь 1» намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Тарас Надольны запэўніў, што да канца бягучага года курс беларускага рубля не наблізіцца да прагнознай адзнакі 9 150 рублёў за адзін долар. Ён нагадаў, што Нацыянальны банк летась заявіў пра прыхільнасць да гнуткага курсаўтварэння. Усё грунтуецца выключна на попыце і прапанове валюты на ўнутраным рынку, падкрэсліў чыноўнік.

У адпаведнасці з асноўнымі напрамкамі грашова-крэдытнай палітыкі і прагнозамі сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2012 год быў закладзены разліковы курс 9 150 рублёў за 1 $. «Я мяркую, што ў бягучым годзе мы не наблізімся да гэтай адзнакі, зыходзячы з той сітуацыі, якая сёння складваецца на ўнутраным валютным рынку», — сказаў прадстаўнік Нацбанку. На адчувальны рост курсу долара за мінулы тыдзень паўплывалі ўнутраныя і знешнія прычыны. Імклівa развіваецца сітуацыя на міжнародным рынку. У апошнія паўтара-два тыдні значна слабее еўра.

«Гэта прадыктавана тым, што ідзе ўзмацненне недаверу з боку інвестараў да еўрапейскай валюты, — мяркуе намеснік старшыні Нацбанка. — За кошт таго што адбываюцца няўстойлівыя тэндэнцыі на сусветным рынку ў пары «долар-еўра», курс беларускага рубля за апошні тыдзень змяніўся вялікімі прапорцыямі і значнымі лічбамі ў параўнанні са стандартнай сітуацыяй, якую мы назіралі напрыканцы кожнага месяца ў бягучым годзе».

Эканаміст Леанід Заіка падкрэслівае — у рамках інтэграцыйных працэсаў стабільнасць беларускага рубля залежыць не толькі ад аб'ёмаў гандлю і золатавалютных рэзерваў. Падаюць цэны на нафту — вагаецца валюта Расіі як сыравіннай дзяржавы. Эксперт гаворыць, што ў Беларусі цяпер нямала расійскіх рублёў, найперш на дэпазітах у банках. Транзакцавыя аперацыі выраўноўваюць суадносінамі паміж беларускім і расійскімі рублямі, то бок беларускі рубель будзе суадносіцца з доларам у прапорцыі, блізкай суадносінам расійскага рубля з доларам.

Разам з тым расійскія аналітыкі сцвярджаюць, што знешніх фактараў для ўмацавання расійскай рубля няма — сусветныя цэны на нафту працягваюць падзенне на фоне асцярог інвестараў з нагоды сітуацыі ў эканоміцы Еўропы, што можа абваліць попыт на сыравіну.

Былы старшыня Нацбанку Станіслаў Багданкевіч не бачыць вялікага страху ў ваганні курса беларускага рубля. «У нас рубель прывязаны да кошыку валют, а не да расійскага рубля. Калі нейкая валюта вагаецца, то беларускі рубель на гэта рэагуе. Долар на сусветным рынку цяпер даражэе, расійскі рубель падаў, таму натуральнае і некаторае абясцэньванне беларускага рубля. Але падкрэсліваю — вялікіх праблем у гэтых ваганнях я не бачу», — гаворыць эксперт.

Мінулагодняя шокавая тэрапія навучыла беларусаў трымаць нос па ветру. Перамены ў курсах рубля пачынаюць абрастаць здагадкамі, магчыма, таму апошнім часам прадстаўнікі Нацбанку актыўна «свяцяцца» ў прэсе. Так, намеснік старшыні НБ РБ Сяргей Дубкоў заяўляў, што Нацбанк не мае намеру рэзка скарачаць стаўку рэфінансавання. «Рэзкае зніжэнне працэнтных ставак прывядзе да адтоку ўкладаў у нацыянальнай валюце і даператоку ў іншыя формы зберажэнняў, а з другога боку — да хуткага росту аб'ёмаў крэдытавання эканомікі. У выніку сітуацыя ў грашова-крэдытнай сферы і эканоміцы можа значна пагоршыцца, аж да паўтарэння 2011 года», — патлумачыў спецыяліст.

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Надзея Ермакова заявіла, што ўжо ў чэрвені можна чакаць чарговы транш крэдыту ад Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. «Мы лічым, што пытанне выдзялення Беларусі крэдыту прынцыпова вырашана, таму што калі прэзідэнт Расіі ўжо пра гэта сказаў, то наўрад ці хтосьці рашыцца не падпісваць гэты дагавор. Тым больш, мы выканалі практычна ўсе ўмовы і зрабілі нават больш, чым было прапісана першапачаткова ў дамове», — зазначыла старшыня Нацбанку Беларусі. Трэці транш крэдыту ад Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС чакаецца на суму 440 мільёнаў долараў. Два першыя траншы былі пераведзеныя ў мінулым годзе. Агульны памер крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС для Беларусі складае 3 мільярда долараў. Сродкі будуць паступаць у рэспубліку шасцю траншамі на працягу 2011–2013 гадоў.

Таксама на сярэдзіну восені запланаваныя чарговыя перамовы з Міжнародным валютным фондам аб магчымасць новай праграмы для Беларусі. Нагадаем, для Беларусі сур'ёзнай задачай ёсць не толькі падтрыманне ўнутранай эканамічнай сітуацыі, але і разлікі па знешніх пазыках. Па інфармацыі Нацбанку, сёлета плануецца сплаціць па знешніх пазыках 18,917 мільярда долараў, прычым пагашэнне дзяржаўнага знешняга доўгу прадугледжвае выплаты ў суме толькі 1,785 мільярда долараў.

Станіслаў Багданкевіч гаворыць, што выплаты па дзяржаўных пазыках складаюць менш за 2 мільярда. «Калі не зможам заплаціць сваімі рэсурсамі, а для выплаты такой сумы ў нас хапае рэзерву, возьмем крэдыт. Наконт гэтай сітуацыі я ніколі не думаў, што ёсць нешта крытычнае. Камерцыйныя банкі таксама маюць знешнюю крэдыторскую запазычанасць, але гэта іх справа, — гаворыць спецыяліст. — Мой прагноз: калі сітуацыя будзе прыблізна такой, як цяпер, і валютна-гаршовая палітыка не зменіцца, будзе даволі жорсткай дзяржаўная фінансавая лінія, то мы зможам назіраць вялацякучае абясцэньванне рубля ў адносінах да долара. Думаю, напрыканцы года долар будзе каштаваць ад 9 да 10 тысяч беларускіх рублёў. Абвалу чакаць не варта».

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### МАЛАРЫТА. ЗНОЎ ЗАБАРАНІЛІ ПІКЕТ

**Праваабаронца Уладзімір Малей, які падаваў у Маларыцкі райвыканкам заяву на правядзенне на гэтым тыдні пікета «За сумленныя выбары без Лукашэнкі», атрымаў адмоўны адказ ад уладаў.**

У лісце за подпісам намесніка старшыні райвыканкаму Вадзіма Шпетнага гаворыцца, што, у адпаведнасці з Законам "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь" ,не дазваляецца праводзіць падобныя мерапрыемствы бліжэй за 50 метраў ад будынкаў выканаўчых і распарадчых органаў. Між тым, заўважае маларыцкі чыноўнік, пікет планавалася правесці перад будынкам Дома культуры, дзе знаходзяцца аддзел культуры райвыканкама і ЗАГС. Акрамя таго, Вадзім Шпетны са спасылкай на той самы Закон «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» паведамляе, што ў заяве «неабходна ўказаць крыніцу фінансавання масавага мерапрыемства».

Уладзімір Малей кажа пра абсурднасць падобных патрабаванняў і пярэчыць, што ў згаданым законе нічога пра гэта не гаворыцца. Праваабаронца мае намер абскардзіць рашэнне райвыканкама пра забарону пікета ў судзе першай інстанцыі.

### ГОМЕЛЬ. ЗБОР ПОДПІСАЎ — МАСАВАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА

**Гамяльчанка Наталля Крывашэй 4 чэрвеня збірала подпісы ў межах кампаніі «Хопіць піць — трэба жыць» за змяненне заканадаўства ў галіне гандлю алкаголем і прынядце тэрміновых мер па прадухіленню татальнай алкагалізацыі насельніцтва. Подпісы дзяўчына збірала ў цэнтральным парку каля праваслаўнага сабору Пятра і Паўла.**

«Да мяне падышоў невядомы мужчына ў цывільным, прыстойна апрануты і па выглядзе нейкі чыноўнік. Ён пачаў мне пагражаць — маўляў, тут нельга збіраць подпісы, бо зараз, па яго словах, збор подпісаў прыраўнялі да пікету, і я буду мець праблемы. Ён дадаў, што я павінна была атрымаць дазвол на збор подпісаў у ідэалагічным аддзеле гарвыканкама і ўзгадніць дазвол з адміністрацыяй парку», — пракаментавала Наталля Крывашэй. Яна прасіла невядомага прадставіцца, але той адмовіўся і хутка пайшоў.

Яна лічыць такія забароны абсурднымі і не адпавядаючымі закону, але вырашыла змяніць «месца дыслакацыі», каб сапраўды не трапіць у пастарунак.

Дарэчы, актывісты кампаніі «Хопіць піць — трэба жыць!» ужо мелі праблемы з міліцыяй, калі распаўсюджвалі антыалкагольныя ўлёткі каля ўнівермага «Гомель». Іх забралі ў РАУС, але адпусцілі без складання пратаколу.

### ГАРАДОК. ПЕРАБЛЫТАЛІ ІСПЫТЫ

**Выпускнікі сярэдняй школы №1 здавалі сёлета беларускую мову ў экстрэмальных умовах: некалькі дзён перад тым яны рыхтаваліся да іспыту па матэматыцы, бо настаўнікі нешта паблыталі ў раскладзе.**

Расклад іспытаў для выпускнікоў — адзіны, яго распрацоўвае Міністэрства адукацыі. Як магло здарыцца, што школьнікаў дэзарыентавалі, будзе разбірацца Гарадоцкі раённы аддзел адукацыі.

Скандальны інцыдэнт здарыўся 1 чэрвеня. Адзінаццацікласнікі прыйшлі пісаць выніковую кантрольную па матэматыцы, да якой рыхтаваліся некалькі апошніх дзён, але высветлілася, што іх чакае пераказ па беларускай мове. І вучні, і іх бацькі абураныя: па віне настаўнікаў была сарваная падрыхтоўка да іспыту. А адзнака за пераказ, між тым, уплывае на выніковы бал атэстату па беларускай мове.

Зразумела, што ў стрэсавым стане дзеці без падрыхтоўкі многія вучні напісалі пераказ горш, чым маглі б. Бацькі і дзеці вінавацяць настаўнікаў, якія чамусьці не ведалі распараджэнняў Міністэрства адукацыі.

Цяпер вырашаецца пытанне, хто вінаваты ў інцыдэнце, і якім чынам выправіць сітуацыю — або «замяць» справу, быццам нічога і не было, або прызначыць дзень для пер498здачы іспыту па беларускай мове — у спакойнай абстаноўцы і пасля належнай падрыхтоўкі.

### БАБРУЙСК. КАВАЛЬКОЎ СУДЗІЦЦА З ЗАВОДАМ

**Лідар пярвічкі Свабоднага прафсаюза Беларускага заводу трактарных дэталяў і агрэгатаў (ТДіА) Міхаіл Кавалькоў судзіцца за права без перашкодаў выконваць свае абавязкі.**

«Суддзя Тамара Карпоўская заслухала спрэчкі бакоў і павінна была вынесці рашэнне па маёй справе, — распавядае Міхаіл Кавалькоў. — Мне ёсць што ёй сказаць, але яна адхіляе амаль усе мае хадайніцтвы. Хаця факт дыскрымінацыі па прафсаюзнай прыналежнасці відавочны».

Міхаіл Кавалькоў не мае магчымасці без перашкодаў патрапіць на сваё працоўнае месца з лістапада мінулага года. З таго часу ў бюро пропускаў яму заблакавалі пастаянны пропуск і пачалі выдаваць аднаразовыя. Але былі выпадкі, калі прафсаюзнаму лідару не выдавалі нават такія пропускі, быццам бы з-за таго, што ён не прадставіў кіраўніцтву ТДіА свой працоўны графік.

Гэтыя прэтэнзіі па графіку Міхаіл Кавалькоў лічыць бязглуздымі, бо па закону аб прафсаюзах ён павінен мець вольны доступ у любы час у тыя месцы, дзе працуюць сябры незалежнага прафсаюза.

**Усе матэрыялы калонкі падрыхтаваны паводле spring96.org**

---

КАНФЛІКТ

## ПАТРАБУЮЦЬ РЭФЕРЭНДУМ

Вольга ХВОІН

**Жыхары вёскі Якімава Слабада Светлагорскага раёна выступілі з ініцыятывай правесці мясцовы рэферэндум.**

На яго прапануецца вынесці пытанне: "Ці згодныя вы на размяшчэнне на тэрыторыі Баравікоўскага сельскага савета завода беленай цэлюлозы?". Адпаведную заяву яны накіравалі ў мясцовы сельсавет 1 чэрвеня.

Грамадзяне таксама просяць зарэгістраваць ініцыятыўную групу ў колькасці 12 чалавек па правядзенні рэферэндуму. Рэферэндум прапануецца зладзіць у вёсцы Якімава Слабада, што побач са Светлагорскам. Там канцэрн «Беллесбумпрам» збіраецца будаваць завод па вытворчасці беленай цэлюлозы з прыцягненнем кітайскага крэдыту.

Жыхары Светлагорска выступаюць супраць будаўніцтва новага завода побач з горадам. Пад адпаведным зваротам у Адміністрацыю прэзідэнта, Савет міністраў і пасольства Кітая падпісаліся больш за 10 тысяч жыхароў Светлагорска і раёна, у тым ліку 601 жыхар Якімавай Слабады. У калектыўным звароце гаварылася, што «жыхары Светлагорска, атмасфернае паветра якога забруджваецца шкоднымі выкідамі ад трох прадпрыемстваў, дзе смяротнасць вышэй нараджальнасці, а захворванні вышэй, чым па ўсёй Беларусі, з трывогай успрынялі вестку пра будаўніцтва завода сульфатнай беленай цэлюлозы ў непасрэднай блізкасці ад горада».

31 мая прадстаўнікі жыхароў Якімавай Слабады разам з актывістамі кампаніі «Гавары праўду!» з Мінска і журналістамі выехалі ў сельсавет. Па дарозе іх спынілі супрацоўнікі праваахоўных органаў пад кіраўніцтвам начальніка аддзялення прафілактыкі правапарушэнняў міліцыі грамадскай бяспекі Светлагорскага РАУС маёра міліцыі Яўгена Клепіка. Мінскія актывісты і журналісты, якія хацелі прысутнічаць падчас падачы заявы, былі дастаўлены ў РАУС, а адзін з іх — Міхаіл Пашкевіч — асуджаны на 7 сутак за «ўмяшанне ў працу міліцыі».

---

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## СУДЗІЛІ ЗА ПОЛЬСКУЮ МОВУ

Вольга ХВОІН

**1 чэрвеня ў Гродне каля аблвыканкаму затрымалі 21 чалавека за ўдзел у акцыі ў абарону польскамоўных класаў.**

Суды адбыліся 6-га і 7 чэрвеня. Журналістаў і тых, хто хацеў прысутнічаць у залі суда, міліцыянты не ўпусцілі, спасылаючыся на забарону «зверху». Затрыманым, сярод якіх журналісты, пенсіянеры, грамадскія актывісты, былі прысуджаны штрафы (ад 15 да 50 базавых велічынь), а актывісту СПБ Ігару Банцару далі 13 сутак. Усе абвінавачваліся ў парушэнні «парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў». АК прадугледжвае за гэта папярэджанне, штраф альбо арышт.

Журналіст і кіраўнік Рады не прызнанага ўладамі Саюза палякаў Андрэй Пачобут увесь дзень знаходзіўся побач з будынкам суда. «Натуральна, што мы прагназавалі такія прысуды. Дзякуй Богу, што дзяўчат і кабет яшчэ не садзяць у турму, а тое, што будуць такія вялікія штрафы — мы да гэтага рыхтаваліся. Мэта гэтага ўсяго — каб чалавек баяўся, бо вядома, якія зараз заробкі і пенсіі ў Беларусі», — цытуе Пачобута Радыё «Свабода».

Сябры не прызнанага ўладамі Саюза палякаў звярталіся ў Гродзенскі гарвыканкам з заяўкамі на правядзенне 4 пікетаў супраць увядзення ў адзінай школе з польскай мовай навучання, збудаванай на грошы польскага ўраду, рускамоўных класаў. У правядзенні пікетаў ім адмовілі. З'яўленне рускамоўных класаў у польскай школе ўлады тлумачаць тым, што суседнія школы перапоўненыя. Пікет сябры СПБ правялі ў першы дзень фэсту нацыянальных культур, які традыцыйна ладзіцца ў Гродне.

---

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## АПОШНЯЯ НАДЗЕЯ

Марат ГАРАВЫ

**Больш за 100 жыхароў былой вёскі Цна, якая ўваходзіць у межы Савецкага раёна Мінска, накіравалі ліст прэзідэнту.**

Аўтары ліста паведамляюць, што ў лютым 2005 года яны звярнуліся да старшыні Мінскага гарвыканкаму і кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёна з просьбай добраўпарадкаваць пешаходную сцежку, якая пратаптана праз лес і поле і самым кароткім шляхам звязвае былую вёску Цна са сталічным мікраёнам Зялёны Луг.

«Гэтая сцежка з'яўляецца для нас своеасаблівай дарогай жыцця, паколькі аўтобусы ў Цну не заходзяць, рухаюцца па Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарозе з інтэрваламі да дзвюх гадзін. Звяртаем Вашу ўвагу, што ў Цне акрамя прадуктовай крамы няма аніякіх сацыяльна-культурных аб'ектаў. Вось чаму мы пастаянна карыстаемся сцежкай, калі ідзем на працу, у паліклініку і магазіны, а нашы дзеці — у дзіцячы сад і на вучобу.

Адміністрацыя раёна падтрымала нашу просьбу, і на 2006 год рашэннем №904 ад 26 мая 2005 года Мінгарвыканкам запланаваў «распрацоўку ў вызначаным парадку праектна-каштарыснай дакументацыі па будову пешаходнай сцежкі з яе асвятленнем праз лясны масіў ад былой вёскі Цна да вуліцы Мірашнічэнкі да школ №№ 34 і 147». Але замест сцежкі для нас была добраўпарадкавана дарожка для жыхароў элітнага катэджнага пасёлка на беразе Цнянскага вадасховішча. Нам спатрэбілася пяць гадоў, каб дабіцца добраўпарадкавання часткі нашай сцежкі праз лес, гэта значыць выканання рашэння Мінгарвыканкама. Дзеля гэтага мы больш за 40 разоў звярталіся ў Адміністрацыю прэзідэнта, Мінгарвыканкам, адміністрацыю Савецкага раёна, ВКУП «Мінскзелянбуд» і органы пракуратуры. Аднак нам неабходна было дабіцца добраўпарадкавання і той часткі сцежкі, якая ідзе праз поле.

На свой чарговы ліст мы атрымалі адказ адміністрацыі Савецкага раёна ад 20 ліпеня 2010 года пра тое, што пытанне добраўпарадкавання гэтай часткі сцежкі будзе разглядацца праектнай арганізацыяй, якая распрацоўвае практна-каштарысную дакументацыю па аб'екту «Комплексная рэканструкция тэрыторыі былой вёскі Цна. Інжынерныя сеткі». Мы паверылі чыноўнікам і аслабілі сваю ўвагу па гэтаму пытанню. Днямі нашу сцежку перакрылі вялізнай кучай зямлі, паколькі дзялянка паміж дамамі №4 і №6 па вуліцы Крывіцкай, дзе праходзіла сцежка, па існуючай інфармацыі, перададзена прыватнай асобе пад будаўніцтва катэджа. І зараз мы і нашы дзеці вымушаныя хадзіць кружнымі шляхамі па праезнай частцы аўтамабільных дарог.

Згодна з артыкулам 1 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, «Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава». Якім жа чынам у дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржаве правы і інтарэсы сотняў людзей былі перакрэслены, каб дагадзіць адной сям'і?» — гаворыцца ў лісце.

Яго падпісанты просяць «адмяніць незаконнае рашэнне аб выдзяленні пляца паміж дамамі №4 і №6 па вуліцы Крывіцкай пад будаўніцтва катэджу, паколькі гэтае рашэнне парушае правы і інтарэсы людзей, дыскрэдытуе дзяржаўную ўладу і стварае напружанасць у грамадстве».

У лісце на імя старшыні Следчага камітэта краіны жыхары былой Цны просяць распачаць крымінальную справу ў дачыненні да асоб, якія парушылі правы і інтарэсы грамадзян і іх дзяцей.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЛАПАВУХАЯ РАСІЯ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Беларускай уладзе трэба ўжо задумацца пра лаўры пераможцы і дзеля задавальнення сваіх амбіцый напісаць падручнік «Як аблапошыць Расію». Наіўныя расіяне думалі, што яны здолеюць націснуць на нас праз нафту і газ. Шмат яны казалі пра тое, што шляхам таннай нафты яны субсідавалі Беларусь на шматлікія мільярды долараў. Здавалася б, пасля таго, як за нафту Расія «выдавіла» з Беларусі стопрацэнтную мытную пошліну, «халява» скончылася і «лавачка» прыкрылася.**

Так думалі расіяне, але не кемлівыя беларусы. Расіяне пляскалі ў ладкі, а потым раптам заўважылі жудаснае — іх зноўку аблапошылі.

Расійскі бок звярнуў увагу на тое, што імпарт расійскіх нафтапрадуктаў Беларуссю апошнімі гадамі значна ўзрос, у тым ліку ў 2012 годзе — у чатыры разы. Пра гэта заявіў на прэс-канферэнцыі ў Мінску 6 чэрвеня пасол РФ у Беларусі Аляксандр Сурыкаў.

Беларусь займаецца рээкспартам расійскіх нафтапрадуктаў пад выглядам разбавіцеляў і растваральнікаў з мэтай пазбегнуць выплаты экспартнай пошліны ў расійскі бюджэт. Сурыкаў сказаў: «Мы разумеем, што Беларусь імпартуе больш, чым трэба для ўнутранага спажывання. Заўважылі, што ў справаздачнасці Мытнага саюза з'явіліся растваральнікі і разбавіцелі, якія не абкладаюцца пошлінамі. Летась іх было два мільёна тон».

**У той час, як Беларусь выпампоўвае з Расіі грошыкі, Расія з Беларусі выпампоўвае разумных людзей і кваліфікаваныя кадры**

Сурыкаў заявіў, што гэтым пытаннем займаюцца адпаведныя эканамічныя структуры ў РФ. «Хутчэй за ўсё, яно будзе абмяркоўвацца з беларускім бокам, каб не было парушэнняў з рээкспартам. Рээкспартаваць можна, але, калі ласка, заплаціце пошліну», — падкрэсліў пасол.

Нагадаем, у адпаведнасці з дзейнымі пагадненнямі, Беларусь у абмен на бяспошлінную нафту і нафтапрадукты абавязана пералічваць у расійскі бюджэт пошліны ад экспарту нафтапрадуктаў за межы Мытнага саюза. Летась Расіі ў выглядзе нафтавых пошлін было пералічана больш за 3 мільярда долараў. Аднак пры экспарце разбавіцеляў і растваральнікаў уся выручка застаецца ў Беларусі, пошліны ў бюджэт РФ беларускі бок не плаціць.

Паводле ацэнкі эксперта расійскага інстытута «Энергетыка і фінансы» Сяргея Агібалава, летась з-за рээкспарту Беларуссю расійскіх нафтапрадуктаў пад выглядам разбавіцеляў і растваральнікаў Расія недалічылася як мінімум 700 мільёнаў долараў. «Сёлета страты расійскага бюджэту ад нявыплаты пошлін могуць узрасці да 2 мільярдаў долараў, гэта ўжо немаленькая сума для Расіі», — кажа Агібалаў.

Ну, хай папрацуюць расійскія эксперты і аналітыкі. Ім за гэта неблагія грошы плацяць. А пакуль «адпаведныя эканамічныя структуры ў РФ» знойдуць адказ на пытанне, якое задалі ім хітрыя беларусы, мы тут знойдзем яшчэ што-небудзь.

Пра тое, што такая практыка не спыніцца, ускосна сказаў і беларускі прэзідэнт, нават абмаляваўшы далейшыя крокі. І паведаміў ён пра гэта не каму-небудзь, а старшыні Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расіі Валянціне Матвіенка.

На сустрэчы з ёй Лукашэнка заявіў, што разлічвае на садзейнічанне Савета Федэрацыі Расіі ў развіцці адносін Беларусі з расійскімі рэгіёнамі. «Былі часы, калі становішча нашага Саюза (Беларусі і Расіі) было вельмі хісткім. І тады супрацоўніцтва з рэгіёнамі выратавала нашы адносіны», — заявіў Лукашэнка.

У сувязі з гэтым ён адзначыў, што Савет Федэрацыі па сваёй сутнасці з'яўляецца палатай тэрытарыяльнага прадстаўніцтва, якая аб'ядноўвае расійскія рэгіёны ў гэтым органе ўлады. «Пажадана, каб вы далучыліся да гэтага працэсу супрацоўніцтва Беларусі з рэгіёнамі. Вы б дапамаглі захаваць аснову нашых адносін. Мы на любым узроўні гатовыя з вамі супрацоўнічаць, у тым ліку на маім. Таму што ідэя супрацоўніцтва паміж расійскімі рэгіёнамі і Беларуссю ў свой час мною была вылучана», — запэўніў Лукашэнка.

Ён адзначыў, што закранаў гэту тэму ў гутарцы з кіраўніцтвам Расіі. «Фактычна ёсць ухваленне. І калі б вы гэта ўзялі пад свой кантроль як чалавек, які ўжо ведае гэту тэму, вы б вельмі моцна дапамаглі ў збліжэнні нашых дзяржаў», — падкрэсліў Лукашэнка.

А што? Няблага было б наўпрост выйсці на губернатара Цюмені ды запіліць праграму кшталту «Нафта ў абмен на харчы». Мы ім цыбулю, цукар і малако наўпрост, яны нам наўпрост — нафту і газ. Усё ў абыход федэральнага бюджэту Расіі і ў межах вышэйазначанай праграмы.

Канешне, харчы мы ім закінем самалётамі. А вось з нафтай і газам цяжэй. Тут спатрэбяцца альбо самалёты-запраўшчыкі, альбо нейк скарыстаць у абыход расійскай федэральнай улады трубапровады. Але гэта задача, я думаю, вырашальная, трэба толькі падумаць.

Тым часам Расія таксама не спіць у шапку, хаця да беларусаў ёй, канешне, далёка. У той час, як Беларусь выпампоўвае з Расіі грошыкі, Расія з Беларусі выпампоўвае разумных людзей і кваліфікаваныя кадры.

Адток кадраў з прамысловасці вырас у 1,9 разу ў параўнанні з 1 кварталам 2011 года. «За першы квартал бягучага года выехала з краіны 1177 чалавек, што ў 1,9 разу больш, чым у першым квартале 2011 года, заехала 1593 чалавека, што ў 1,2 разу менш, чым у мінулым годзе», — паведаміў са спасылкай на дадзеныя МУС Беларусі першы намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны рэспублікі Пётр Грушнік.

Ён адзначыў, што з Беларусі грамадзяне для часовага працаўладкавання выязджаюць пераважна ў Расійскую Федэрацыю, у рамках дамоўленасцей Саюзнай дзяржавы і пагадненняў аб фарміраванні адзінай эканамічнай прасторы, у адпаведнасці з якімі прадугледжана свабода перасоўвання рабочай сілы.

Па дадзеных МУС рэспублікі, у 2011 годзе на падставе працоўных дагавораў і кантрактаў выехала з рэспублікі 5522 чалавека (у 2010 годзе — 5066 чалавек), з іх у Расію — 4237 чалавек, у ЗША — 828, у Польшчу — 224, Германію — 68. Заехала для працы ў рэспубліку 8434 чалавека (у 2010 годзе — 6816 чалавек).

«Пры гэтым асноўным матывам выезду з'яўляецца прывабны ўзровень аплаты працы за мяжой. У сувязі з гэтым мы бачым неабходнасць, перш за ўсё, павышэння матывацыі працы нашых работнікаў», — сказаў Грушнік.

Што яшчэ за «матывацыя»? Дошкі гонару? Ганаровыя граматы? Значкі «Перадавік вытворчасці», ганаровыя вымпелы ды медалі «Ударніку сацыяльна арыентаванай эканомікі»?

«Матывацыя» павінна быць адна: як мага большы заробак пры як мага ніжэйшых коштах. Тады нашыя грамадзяне не будуць ездзіць на заробкі ў Расію, дзе яны большыя, і на закупы ў Польшчу і Літву, дзе кошты меншыя. Вось такая павінна быць матывацыя.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ЧЭСЛАЎ ШУЛЬГА



Намеснік міністра спорту і турызму Чэслаў Шульга ў інтэрв'ю каналу «РТР-Беларусь» распавёў, як можна ў Беларусь прыцягваць замежных турыстаў, якія будуць да нас ехаць чародамі і валюту ў краіну везці чамаданамі.

«У нас у той ці іншай ступені захаваліся больш за тысячу радавых сядзібаў, — распавёў Чэслаў Шульга. — Дзесьці рэшткі паркавай зоны, дзесьці падмуркі. Хай іх купяць за базавую велічыню, але возьмуць на сябе сацыяльную нагрузку: што на працягу 5–10 гадоў будуць развіваць тут турызм». Намеснік міністра таксама заўважыў, што ў асобных раёнах Беларусі зараз спісваюць у разрад нежылых дзясяткі вёсак. «Мёртвыя» вёскі таксама плануюць прадаваць за бясцэнак. «Ідэя тая ж: хай хтосьці купіць іх за адну «базавую». Чаму б інвестару не набыць вёску, не аднавіць яе? Гэта быў бы добры цікавы прадукт», — мяркуе чыноўнік.

Адказваючы на пытанне вядучага пра яшчэ адзін кірунак турызму — маўляў, у Беларусь цяпер актыўна ездзяць сэкс-турысты з Італіі, Турцыі, — Чэслаў Шульга прапанаваў глядзець на гэтага не саромецца. «Тут выбачацца няма за што. Гэта тое, што, да прыкладу, запатрабавана ў Даніі. Яны знайшлі козыр. Мы сёння гэта не культывуем, не гаворым — прыязджайце да нас за сэкс-паслугамі. Але калі ў кагосьці ёсць цікавасць, то хай едзе, шукае, знаёміцца, жэніцца», — прапанаваў метад прыцягнення турыстаў у Беларусь чыноўнік. Чэслаў Шульга таксама распавёў, што цяпер стаіць задача скараціць бюджэтныя выдаткі на развіццё турыстычнай інфраструктуры і даверыць гэта бізнэсу. Прагрэс ужо ёсць: дзяржаўныя сродкі расходуюцца ў разы менш, чым 3–5 гадоў таму. Калі ж развіць прыватныя ініцыятывы па стварэнні вуліц «чырвоных ліхтароў», то дзяржаве, відавочна, застанецца паклапаціцца толькі пра брукаванку ў тых кварталах.

### СВЯТЛАНА ШЫЛАВА



Яшчэ адна чыноўніца — Святлана Шылава, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па ахове здароўя, фізічнай культуры, справах сям'і і моладзі — стала аб'ектам скандалу і буйных абмеркаванняў у байнэце (а акурат там цяпер і можна пачуць грамадскую думку). У эфіры перадачы «Не толькі жанчына ведае» на тэлеканале «Беларусь 1» Святлана Шылава распавяла пра сваё стаўленне да колькасці дзяцей, што мусіць быць у беларускай сям'і. Чыноўніца заявіла, што трэба мяняць светапогляды беларусаў, настройваць іх на нараджэнне дваіх ці траіх дзяцей, паведамляе рэсурс dengi.onliner.by.

«Чаму французы нараджаюць не менш за трое дзяцей?» — задала чыноўніца рытарычнае пытанне. «Можа, зарплаты іншыя?» — пацікавілася вядучая. «Ну, калі мы з вамі зараз пачнём лічыць эканамічны складальнік — ён не паўплывае. Я магу сказаць, што я вырасла ў вялікай сям'і. У мяне 4 старэйшых брата. Нашы бацькі далі нам усім вышэйшую адукацыю. Я лічу, яны выхавалі нармальных, самадастатковых дзяцей, у нас вельмі дружная сям'я», — распавяла дэпутат. Таксама яна параіла мужчынам, якім не хапае грошай на дзіця, знайсці другую працу.

### СЯРГЕЙ ПАПОК



Беларускі веламагоншчык Сяргей Папок выйграў веламагонку італьянскага моладзевага тура Colli Briantei. Перамога была здабытая дзякуючы адзінкаваму адрыву за 500 метраў да фінішу. Другое і трэцяе месца занялі італьянцы Матэі Поцца і Мірка Насоці. Сярэдняя хуткасць 176-кіламетровай гонкі склала 40,881 кіламетра на гадзіну. Гэта ўжо трэцяя перамога 24-гадовага беларуса ў гэтым сезоне. Іншы беларус Станіслаў Бажкоў адзначыўся ў суботу і нядзелю пятымі месцамі на міжнародных гонках Trofeo F.lli Anelli і Trofeo De Gasperi. У активе 21-гадовага гоншчыка ў гэтым сезоне 2 перамогі, 1 другое месца і 2 трэцях, што дазваляе яму знаходзіцца ў топ–15 лепшых гоншчыкаў італьянскага моладзевага тура і займаць другое месца сярод усіх замежнікаў. Дасведчаныя Васіль Кірыенка і Канстанцін Сіўцоў, у сваю чаргу, прынялі ў нядзелю старт у шматдзённай гонцы па дарогах Францыі Criterium Dauphine. Гэты старт стане падрыхтоўкай беларусаў да легендарнай Tour de France.

ЗАБАРОНА НА ПРАФЕСІЮ

# Юлія Мануйкіна: ПРАВАВОЕ БЯЗМЕЖЖА ВЯДЗЕ ДА ПАГІБЕЛІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Марат ГАРАВЫ

**Юлія пасля заканчэння Віцебскага тэхналагічнага інстытута 13 гадоў паспяхова працавала на Віцебскай мытні, пра што сведчаць шматлікія падзякі ад кіраўніцтва. Толькі за 2005 год намеснік начальніка аддзела афармлення і кантролю Віцебскай мытні Юлія Мануйкіна атрымала 9 (!) заахвочванняў і знаходзілася ў рэзерве на падвышэнне. Па выніках конкурснага адбору яна была накіраваная на завочную вучобу ў Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, якую паспяхова скончыла ў 2007 годзе па спецыяльнасці «дзяржаўнае кіраванне і ідэалогія».**



Яшчэ падчас вучобы Мануйкіну перавялі на аналагічную пасаду ў другі аддзел, начальнік якога сустрэў жанчыну не вельмі прыязна. Спачатку — 21 сакавіка 2007 года — на Мануйкіну быў складзены акт пра тое, што яна займалася вымаганнем, затым на працягу пяці тыдняў жанчына атрымала тры дысцыплінарныя спагнанні, а праз два месяцы пасля заканчэння акадэміі была ўвогуле звольнена з мытных органаў з фармулёўкай «з прычыны неадпаведнасці займаемай пасадзе з-за недастатковай кваліфікацыі».

Атрымліваецца, што вучоба ў акадэміі знізіла яе кваліфікацыю. Прычым звольнена Мануйкіна была як не прайшоўшая пераатэстацыю, падчас якой жанчыне задаваліся пытанні, што не тычыліся яе службовых абавязкаў. Напрыклад, Мануйкіна павінна была адказаць, колькі раптоўных праверак падначаленых у пунктах мытнага афармлення яна ажыццявіла ў святочныя і выходныя дні, а таксама ў начны час, хаця правядзенне такіх праверак не ўваходзіла ў яе службовыя абавязкі.

Сапраўднай прычынай звальнення жанчына лічыць зайздрасць сваёй паспяховай службовай кар'еры з боку некаторых не вельмі прыстойных калег. На яе меркаванне, разумная і паспяховая жанчына, на жаль, належным чынам пакуль не ўспрымаецца ў беларускім грамадстве, асабліва ў праваахоўных і сілавых структурах, дзе спакон веку пануе мужчынскі асяродак. Высокае чыноўніцтва лічыць, што ў такіх органах жанчына павінна выконваць другасныя абавязкі, а вельмі разумная — варыць буракі. Са свайго вопыту Мануйкіна ведае, што ў такіх структурах нават самая адукаваная і здольная жанчына без падтрымкі ніколі не зробіць кар'еру.

Вось ужо пяць гадоў Мануйкіна дабіваецца ўзнаўлення на працы, аднаўлення сваіх гонару і годнасці. Прычым толькі праз тры гады ёй удалося выйграць адзін суд, адстаяць гонар і годнасць, даказаць сваю невінаватасць і абвергнуць беспадстаўныя абвінавачванні ў вымаганні. Па гэтай справе Генеральная пракуратура вынесла два пратэсты на рашэнне суду. Але да гэтага часу жанчына не можа аднавіцца на працы, хаця і па гэтай справе Генпракуратура таксама вынесла два пратэсты на судовыя рашэнні. На жаль, гэтыя пратэсты былі пакінутыя без задавальнення судовымі органамі.

Каб дабіцца праўды і справядлівасці, Мануйкіна была вымушаная пераехаць у Мінск, часова здымаць пакой у сталіцы і зарабляць працай, якая не патрабуе аніякай кваліфікацыі. Дарэчы, у Віцебску пасля звальнення з мытных органаў жанчыну нідзе (!) не бралі нават на самую некваліфікаваную працу, не гаворачы пра ўладкаванне па спецыяльнасцях, атрыманых Мануйкінай у ВНУ...

На меркаванне Юліі, праваое бязмежжа, якое існуе ў краіне, вельмі небяспечнае і вядзе да аслаблення і пагібелі беларускай дзяржавы. Да такой думкі яна прыйшла на выснове свайго жыццёвага вопыту і ведаў, атрыманых у акадэміі. Грамадзяне звяртаюцца ў суд, каб абараніць свае правы. Але суд можа зрабіць гэта толькі ў тым выпадку, калі ён незалежны і падпарадкоўваецца выключна закону. Аднак у Беларусі суд страціў сваю незалежнасць і падпарадкоўваецца выканаўчай уладзе.

Пры такіх абставінах чалавек абсалютна безабаронны перад уладай і бездапаможны ў складаных жыццёвых абставінах. Доказам таму — прыклад Юліі Мануйкінай. Па яе справах вышэйшы наглядны орган краіны вынес чатыры пратэсты, але жанчына да гэтага часу не працуе па спецыяльнасці. Такое становішча сведчыць пра тое, што дзяржава не выконвае свае абавязкі перад грамадствам і страчвае яго давер. Вось чаму Мануйкіна выходзіць і мяркуе надалей выходзіць на грамадзянскія акцыі, каб выказаць пратэст самавольству чыноўніцтва, незаконнаму звальненню і судоваму беззаконню.

СКАНДАЛ

# АНДРЭЙ ПЫЖЫК ПАКУЛЬ ВЫРАТАВАНЫ

Алена БАРЭЛЬ

**5 чэрвеня былога жодзінскага следчага Андрэя Пыжыка ў Польшчы затрымала паліцыя на падставе нібыта ўзніклых праблемаў з атрыманнем статуту ўцекача, і цягам 3–5 дзён яго мусілі дэпартаваць у Беларусь.**

У цыдулцы, якую Андрэй здолеў перадаць жонцы Юліі, ён паведаміў, што звязвае сваё затрыманне з выказваннямі ў фільме «Страх у краіне спакою» (вытворца — тэлеканал «Белсат»), прысвечаным тэракту ў мінскім метро ў мінулым годзе. Менавіта пасля гэтага беларускі бок абвясціў Андрэя Пыжыка ў вышук праз Інтэрпол.

Між іншым, у беларускім офісе Інтэрполу адмовіліся паведаміць прычыны абвяшчэння ўцекача ў міжнародны вышук. «Гэткая інфармацыя з'яўляецца канфідэнцыйнай і для прэсы не выдаецца», — паведамілі супрацоўнікі офіса.

З паліцыі Андрэя Пыжыка перавезлі ў пракуратуру, дзе павінен быў прайсці яго допыт.

Але пасля разгляду прадстаўленых дакументаў Варшаўская раённая пракуратура загадала неадкладна вызваліць беларускага ўцекача, што пражывае ў Польшчы, з прычыны адсутнасці афіцыйнай прапановы беларускага боку наконт часовага арышту, паведаміў пракурор Рычард Рагатка Польскаму радыё.

Як сказала пракурор Катажына Цалуў-Яшэўска, у сувязі з недахопам у беларускага боку неабходных дакументаў затрыманы быў адпушчаны дадому.

Нагадаем, былы следчы Жодзінскай пракуратуры Андрэй Пыжык некалі адмовіўся распачаць крымінальную справу супраць «афганца» Аляксандра Камароўскага падчас вылучэння таго ў гарсавет. Зразумела, што такія дзеянні следчага не маглі застацца без увагі ўладаў. На Андрэя пачаўся ціск, і ён быў вымушаны з'ехаць з краіны, знайшоўшы прытулак у Польшчы.

Менавіта ў Польшчы Пыжык публічна заявіў пра фальсіфікацыю «палітычных» справаў у Беларусі. І менавіта Польшча ледзь не адправіла палітуцекача ў абдымкі беларускай Феміды.

Андрэя Пыжыка вызвалілі. Але чаму наогул існавала пагроза пазбаўлення яго волі? І ці зможа ўцякач спаць спакойна, прынамсі ў Польшчы, не чакаючы моманту, калі ў беларускага боку хопіць дакументаў для экстрадыцыі?

Палітолаг, эксперт аналітычнага цэнтра «Стратэгія», аўтар больш як 800 публікацыяў па праблемах унутранай і замежнай палітыкі Беларусі Валерый Карбалевіч лічыць, што гэтага не ведае ніхто. Пры гэтым ён не бачыць у дадзенай справе палітычнай падставы. «Тут дзейнічаюць нейкія міждзяржаўныя пагадненні па барацьбе са злачыннасцю, у рамках якіх адзін бок дасылае іншаму просьбу, паперы, якія сведчаць, што той ці іншы грамадзянін парушыў нейкі закон. Паводле дамовы, другі бок павінен пайсці насустрач», — кажа Карбалевіч.

На думку палітолага, тут хутчэй за ўсё дзейнічаюць бюракратычныя працэдуры, а людзі, якія прымаюць такія выракі, пра палітыку ўвогуле не згадваюць.

Дарэчы, старшыня Руху салідарнасці «Разам» і Беларускага цэнтру ва Украіне Вячаслаў Сіўчык, які вымушана з'ехаў з Беларусі пасля падзей 19 снежня 2010 года, упэўнены, што гэта вынік дзеяння беларускіх спецслужбаў. «Гэта дзеянні беларускіх спецслужбаў, якія выкарыстоўваюць супрацу сілавых структур з Інтэрполам, — кажа ён. — У палякаў, пэўна, не было той інфармацыі, што з-за закрыцця сфальсіфікаванай справы па Аляксандры Камароўскім Пыжыка ў Беларусі чакаюць катаванні ў турме. Каб іншых застрашыць».




Сіўчык заклікае ратаваць Андрэя Пыжыка ад выдачы на расправу.

Праваабаронца ПГА «Праваабарончы альянс» (Літва) Людміла Празнова не сумнявалася, што справа з затрыманнем вырашыцца на карысць Пыжыка. «Гэта сведчыць аб тым, што польскі бок пільна назірае за сітуацыяй з экстрадыцыяй палітуцекачоў, — кажа яна. — Гэта важна не толькі для самога Пыжыка, але і для тых людзей, хто займае пэўную грамадзянскую пазіцыю і выказвае яе без страху, як Пыжык у створаным «Белсатам» фільме, дзе ён расказаў пра тое, якія метады дазнання выкарыстоўваюць следчыя органы Беларусі».

Праваабаронца падкрэслівае, што згаданыя метады — выключныя, якія выпадаюць за межы следства, але, тым не менш, яны ёсць.

«Людзі павінны ведаць праўду адносна следчых прыёмаў і таго, якім чынам праводзілася следства ў адносінах да няшчасных хлопцаў Канавалава і Кавалёва, і, наогул, што ўяўляе сабой гэтая сістэма ў Беларусі», — мяркуе Празнова.

Калісьці выратаваны Андрэем Пыжыкам ад вязніцы былы «афганец» Аляксандр Камароўскі не выключае, што беларускія спецслужбы ўкінулі польскім калегам пэўную дэзынфармацыю адносна былога следчага пракуратуры.

«Калі яго ўсё ж дэпартуюць у Беларусь, ад гэтай ганьбы Польшча не адмыецца ніколі», — лічыць Камароўскі.

Можна ўзгадаць, што менавіта з-за такіх «бюракратычных працэдур» беларускі бок атрымаў дадзеныя з банкаўскіх рахункаў вядомага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. І нягледзячы потым на ўсялякія спробы дэзавуацыі з боку Польшчы і Літвы, Бяляцкі апынуўся за кратамі.

Будзем спадзявацца, што гэтым разам польскі бок не будзе фармальна падыходзіць да нормаў права, закладзеных у міжнародных пагадненнях, і Андрэй Пыжык не трапіць у беларускія кайданкі. Шкада, што наогул магла ўзнікнуць такая пагроза.

ВЫБАРЫ

# У ТРАДЫЦЫЙНЫМ РЭЖЫМЕ

Вольга ХВОІН

**Сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік заявіў, што выбары ў Палату прадстаўнікоў могуць адбыцца 23 верасня. Кіраўнікі палітычных структур апазіцыі сабраліся за закрытым круглым сталом, каб у чарговы раз паспрабаваць дамовіцца наконт агульнай, аб'яднанай кампаніі. Але выглядае на тое, што нічога новага ані выбарцы, ані назіральнікі ў сёлетняй палітычнай кампаніі не пабачаць.**



«Паводле заканадаўства, выбары ў парламент мусяць быць праведзеныя не пазней за 26 верасня. Аднак яны абавязкова праходзяць у нядзелю. Апошняя нядзеля перад 26-м прыпадае на 23-га верасня. Хоць не выключана, што выбары могуць адбыцца і на тыдзень раней», — паведаміў старшыня ЦВК Мікалай Лазавік. Ён нагадаў, што афіцыйны старт выбарчай кампаніі дае адпаведны прэзідэнцкі ўказ. «Мы чакаем, што ён з'явіцца дзесьці ў сярэдзіне чэрвеня. Указ вызначае канкрэтную дату правядзення выбараў. І ад гэтай даты мы рыхтуем каляндарны план правядзення выбарчай кампаніі», — патлумачыў сакратар ЦВК.

Лідары палітычных партый і рухаў вырашылі зладзіць чарговы круглы стол на тэму фармату ўдзелу ў парламенцкай кампаніі. Мерапрыемства не адбылося без скандальчыку. Нагадаем, палітыкі дагэтуль не дамовіліся наконт агульнай стратэгіі. Партыя левых «Справядлівы свет» і Рух «За Свабоду» хочуць ісці на выбарах да канца, АГП і Партыя БНФ — здымаць кандыдатаў, «Гавары праўду!» плануе зняць сваіх кандыдатаў, калі не вызваляць палітвязняў, Беларуская хрысціянская дэмакратыя ўвогуле не мае намеру вылучаць кандыдатаў. Круглы стол адбываўся з удзелам Рады інтэлігенцыі. Удзельнікі круглага стала нечакана большасцю галасоў вырашылі выдаліць журналістаў з пасяджэння.

Лідар партыі «Справядлівы свет» Сяргей Калякін заявіў, што ў прысутнасці журналістаў палітыкі пачнуць выказвацца для прэсы, а не гаварыць, што насамрэч думаюць. Супраць выдалення прадстаўнікоў СМІ прагаласавалі толькі Рымашэўскі і Лябедзька. Фармулёўка Сяргея Калякіна, канешне, уразіла: наўрад ці хто з журналістаў не разумее, што ёсць палітыкай, лініяй партыі і персанальным меркаваннем. Але агучыць аргумент супраць прысутнасці прэсы як звычку палітыкаў хлусіць — гэта трэба ўмець!

Праўда, і зачыненыя дзверы не надта дапамаглі лідарам беларускай апазіцыі. Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька зазначыў, што «ў залік сустрэчы можна занесці факт камунікацыі паміж палітычнымі суб'ектамі, ініцыятывамі, грамадскімі арганізацыямі, бо, калі гэтага няма, то з'яўляюцца вялікія праблемы». «Больш рэльефнай стала перспектыва: можа быць супрацоўніцтва палітычных структур па асобных кірунках, ці больш вузкія кааліцыі ўнутры кааліцыі шасці. Выглядае так, што ў АГП, БНФ і БХД даволі блізкія стратэгіі на выбарчую кампанію, у партыі «Справядлівы свет» і Руху «За Свабоду» таксама ёсць нейкія агульныя погляды, — распавёў палітык пра вынік сустрэчы. — Усе гавораць, што трэба арганізоўваць назіранне. Усе суб'екты маюць шанец папрацаваць на адну перспектыву — вяртанне да дэмакратыі. Апазіцыя мусіць выйсці як моцная альтэрнатыва ўладзе. Але без еднасці гэтага не будзе».

Уладзімір Колас, кіраўнік Рады інтэлігенцыі, пад патранажам якой і ладзіўся круглы стол, з прыкрасцю канстатаваў: «Ніякіх зменаў пасля перамоў не адбылося ні ў кірунку кансалідацыі, ні ў вызначэнні руху па дасягненні мэтаў. Гэта таксама вынік, але ён нікога не задаволіў».

Уладзімір Колас, як, зрэшты, і многія аналітыкі, нічога новага, цікавага ад бліжэйшай электаральнай кампаніі не чакае. «Вынікаў ад кампаніі, калі не будзе вонкавых нечаканых фактараў, што могуць паўплываць на сітуацыю незалежна ад паводзінаў апазіцыйных палітыкаў, форс-мажорных абставінаў, не даводзіцца чакаць. Звязваць нейкія спадзевы на паляпшэнне іміджу той ці іншай палітычнай структуры я б таксама не стаў, бо імідж паляпшаецца толькі дзеяннямі», — падкрэслівае Уладзімір Колас.

Разважаючы, чаму ёсць такая сітуацыя раздробленасці і папросту не зразумелых паводзінаў сярод лідараў апазіцыі, Уладзімір Колас згадаў рускую прымаўку. «Я б не сказаў, што для некаторых асобаў гэтая сітуацыя бядотная. «Кому война, кому мать родна». Дык вось, некаторыя суб'екты ў гэтай сітуацыі знаходзяць для сябе станоўчыя моманты. Уся справа ў тым, якія мэты ставіць. Асабістыя мэты — існаванне, канкурэнцыя за больш утульныя месцы — гэтага цалкам можна дасягнуць імітацыяй дзейнасці. Змяніць такую сітуацыю можна толькі праз агульныя дзеянні, але іх няма», — падкрэсліў спадар Колас.

Цікава, што раней Аляксандр Лукашэнка заяўляў: выбары ў парламент будуць іспытам для ўлады, і яго «давядзецца трымаць на поўную катушку». З гэтай нагоды ён нагадваў кіраўнікам абласцей рыхтавацца да парламенцкай кампаніі. «На кагосьці сапхнуць адказнасць не атрымаецца. Закон і Канстытуцыя гэта не дазваляюць», — заяўляў кіраўнік дзяржавы. На сустрэчы са старшынямі Брэсцкага і Магілёўскага аблвыканкамаў Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў ад кіраўнікоў ліквідаваць праблемы, якія тармозяць развіццё Брэсцкай і Магілёўскай абласцей і перашкаджаюць выкананню прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця. Ён звяртаў увагу, што па выніках сацдаследаванняў менавіта гэтыя вобласці знаходзяцца на апошніх месцах па ўзроўню даверу мясцовым органам улады. Маўляў, у гэтых рэгіёнах адзначаны самы высокі ўзровень вымушанай няпоўнай занятасці, а таксама практычна ў кожным раёне парушаліся тэрміны выплаты заробку. «На гэтым фоне назіраецца істотнае пагаршэнне сацыяльна-псіхалагічнай абстаноўкі ў працоўных калектывах», — заявіў кіраўнік дзяржавы.

Ці азначаюць гэтыя заявы і папярэджанні, што раптоўна хаця б гэтыя дзве вобласці сапраўды стануць «для народа»? Вельмі сумнеўна. Цяпер найлепшым (калі так можна выказацца) пернікам для народу ёсць міліцэйская дубінка — на раскошнае жыццё ў дзяржавы элементарна няма рэсурсу, а стрымліваць незадаволенасці лакальнага ўзроўню дазваляе моцная рэпрэсіўная сістэма. Фактычна штодня можна знайсці зводкі пра затрыманне актывістаў грамадскіх, палітычных ініцыятыў. З такім раскладам апазіцыя з агульнай суперпрапановай для народа магла б выглядаць вельмі прывабна. Але не будзем толькі камяні кідаць у гароды недамоваздольных.

«Апазіцыя ў кепскім стане, яна не з'яўляецца цяпер суб'ектам палітыкі. Прычына — найперш у жорсткасці аўтарытарнага рэжыму, які не дае магчымасці развівацца публічным працэсам. Публічная палітыка ў краіне знішчаная, апазіцыя мае зусім невялікі ўплыў на грамадства. Таму ад парламенцкіх выбараў я нічога незвычайнага не чакаю. Думаю, кампанія будзе ісці ў традыцыйным рэжыме», — гаворыць палітолаг Валерый Карбалевіч.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ЖЫВУЦЬ, ХОЦЬ І НЕ ПАВІННЫ

**Не злічыць ініцыятыў чыноўніцтва, не ахапіць розумам гарэзлівыя праявы гэтага пастаўленага на службу народа калектыўнага інтэлекту.**

Намеснік старшыні пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па ахове здароўя, фізічнай культуры, справах сям'і і моладзі Святлана Шылава, па звестках прэсы, сказала ў эфіры перадачы «Не толькі жанчына ведае»: «Я мяркую, што трох мільёнаў для таго, каб выхоўваць у сям'і двух дзяцей, дастаткова. Быў перыяд 90-х гадоў, калі ўвогуле нічога не было, і ў нас у сям'і было трое дзяцей і траіх выхоўвалі. Навошта круты тэлефон? Трэба ў сям'і выхоўваць не спажыванне, што ў мяне круты тэлефон або кофтачка, а каб гэта было больш чыстым, маральным і гэтак далей...»

Як можна было зразумець Шылаву, яна супраць тлумачэнняў нізкай нараджальнасці мізэрнымі заробкамі: «Гэта ментальнасць была закладзена ў нашых людзей дзесьці 30 гадоў таму, калі было сорамна мець шмат дзяцей. Гэта на генетычным узроўні адклалася ў нашым пакаленні. І не таму, што мала грошай, не таму, што не ўсё дадзім дзецям, — усё дзецям можна даць... »

Але пры чым тут ментальнасць? Трэба пачынаць з таго, што беларусы стагоддзямі не мелі высокіх стандартаў спажывання, часцяком галадалі і хадзілі ў трантах. Таму мелі падвышаны інстынкт да выжывання, заводзілі шмат дзяцей, каб што вырастала, бо дзіцячая смяротнасць, асабліва падчас рэгулярных эпідэмій, была надзвычайна высокай. На кожных старых вясковых могілках да гэтага часу можна знайсці мноства маленькі крыжыкаў.

Яшчэ стагоддзе таму ці не 95% насельніцтва жыло ў вёсцы, гаспадарыла на зямлі, ад чаго і кармілася, таму трэба былі дзеці-работнікі. Гаспадару патрэбны былі хлопцы, а Бог раз-пораз замест работніка пасылаў бацькам дзевак.

Так званая савецкая ментальнасць, якую ўдакладнялі разам з лініяй партыі, — гэта тэхналогія звычайнага прыстасавання індывіда да тлумных выклікаў агрэсіўнага для асобы сацыяльнага асяродка. На побытавым узроўні яе дакладна адлюстравалі Зошчанка і Жванецкі, на «метафізічным» — Шаламаў, Салжэніцын і, мусіць, Вайновіч.

А яшчэ — да 1955 года ў СССР існавала забарона на аборты.

Магчыма, для сп. Шылавай, усё адзначанае вышэй з'яўляецца нечуванай навіной. Але недасведчанасць не з'яўляецца перашкодай для праяўлення інтэлектуальнай актыўнасці. У прыватнасці, яна адзначыла, што «французы нараджаюць не меней трох дзяцей» не таму, што гэта дазваляе сярэдні сямейны бюджэт, а таму, што гэта прэстыжна. Зразумела, нельга ўсё патлумачыць эканамічнымі чыннікамі. Але вялікая сям'я толькі тады стане прэстыжнай, калі колькасць дзяцей не стане вызначальным фактарам для эканамічнага стану сям'і увогуле, для яе сацыяльнага прэстыжу.

Пралетарскае тлумачэнне гэтага пытання — не нараджаем, каб не пладзіць жабракоў — стагоддзямі ляжыць у кантэксце гэтай сітуацыі. У поўнай меры гэта тычыцца сучаснай Беларусі, пра што сведчыць нават афіцыйная статыстыка. Прынамсі таму, што ў Беларусі ёсць гарантаваныя дзяржавай сацыяльныя стандарты. Адзін з іх, мінімальны пражытачны бюджэт, складае 700 тысяч рублёў і, паводле Шылавай «шыкоўнага жыцця не гарантуе, але не дае памерці ад голаду».

Але шмат хто з беларусаў не мае магчымасці штомесяц выдаткоўваць на сябе такія велізарныя сумы. Згодна з дадзенымі выбарачнага абследавання дамашніх гаспадарак па ўзроўню жыцця ў І квартале бягучага года, у кожнай двухсотай гаспадарцы памер сярэднедушавых рэсурсаў для жыцця склаў меней 400 тысяч рублёў. А сярод сямей, што маюць двух дзяцей і болей, колькасць тых, хто мае на пражыццё каля паловы мінімуму, складае 1,6%. Утрая больш, чым у сярэднім.

Наступная па сярэднедушавых спажывецкіх рэсурсах група (ад 400,1 да 800,0 тысяч рублёў) складаюць 7,5% усіх хатніх гаспадарак, а сярод тых, дзе ёсць двое і больш дзяцей — 20,6%. У тры разы болей. Кожная пятая сям'я з колькасцю дзяцей, большай за двух, не шыкую, а, згодна з Шылавай, усяго толькі не здыхае ад голаду.

Можна падлічыць, што ў структуры малазабяспечаных хатніх гаспадарак большую частку (64,5%) складаюць гаспадаркі, у якіх растуць дзеці.

Вось такая яна, сацыяльная палітыка сацыяльнай дзяржавы.

РАЗМЕРКАВАННЕ ДАМАШНІХ ГАСПАДАРАК ПА ЎЗРОЎНЮ СЯРЭДНЕДУШАВЫХ СПАЖЫВЕЦКІХ РЭСУРСАЎ У І КВАРТАЛЕ 2012 Г. (У % ДА ВЫНІКУ)

| | Усяго па рэспубліцы | Дамашнія гаспадаркі, якія складаюцца з аднаго чалавека | Дамашнія гаспадаркі без дзяцей | Дамашнія гаспадаркі з дзецьмі ва ўзросце да 18 гадоў | З іх маюць: 1 дзіця | З іх маюць: 2 дзяцей і больш |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Усе дамашнія гаспадаркі | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| **У тым ліку з узроўнем сярэнедушавых наяўных рэсурсаў, тыс. рублёў у месяц:** | | | | | | |
| да 400,0 | 0,5 | 0,3 | 0,3 | 0,9 | 0,5 | 1,6 |
| 400,1–800,0 | 7,5 | 4,3 | 4,3 | 14,1 | 10,8 | 20,6 |
| 800,1–1200,0 | 21,3 | 16,9 | 16,8 | 30,5 | 25,8 | 39,3 |
| 1200,1–1600,0 | 24,4 | 22,2 | 24,6 | 26,0 | 27,6 | 23,0 |
| 1600,1–2000,0 | 16,9 | 16,5 | 19,2 | 14,4 | 17,0 | 9,3 |
| 2000,1–2500,0 | 13,1 | 13,9 | 16,2 | 8,8 | 11,2 | 4,3 |
| 2500,1–3000,0 | 7,3 | 10,5 | 8,6 | 3,0 | 3,7 | 1,5 |
| больш 3000,0 | 9,0 | 15,4 | 10,0 | 2,3 | 3,4 | 0,4 |

▸ ТРЭЦІ СЕКТАР

# АЛЕГ ГУЛАК

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Алегу Гулаку пасля шматгадовага кіравання Беларускім Хельсінскім камітэтам вядомай Таццянай Процькай было дастаткова складана стаць у руля. Як гэта звычайна бывае, новае параўноўвалі з ранейшым. Але даволі хутка пераканаліся: стыль і ўзровень працы БХК прынцыпова не зменяцца, навацыі ж скіраваны на развіццё.**



## Вандроўка ў мінулае

Алег Гулак — зямляк знакамітага Васіля Старавойтава, якога паспрабавалі ператварыць з легенды айчыннай сельскай гаспадаркі ў звычайнага былога зэка. Гулак нарадзіўся 1 верасня 1967 года ў Кіраўскім раёне. У пасёлку Жылічы, што недалёка ад славутых Мышкавічаў.

Як бачна, дзень народзінаў у яго — выключна «настаўніцкі», асабліва з улікам таго, што бацькі Алега працавалі ў школе. Маці, Яніна Гаўрылаўна, (на жаль, ужо памерла) — настаўніцай біялогіі, а бацька, Мікалай Сцяпанавіч, — рускай мовы і літаратуры.

Дарэчы, менавіта ў Жыткавічах знаходзіцца маёнтак знакамітых Булакаў, адзін з якіх некалі быў у Радзе БНР. Увесь савецкі час гэты будынак актыўна выкарыстоўваўся, што і выратавала яго ад брутальнага разбурэння. Сёння ў ім вядуцца рэстаўрацыйныя работы.

Па свайму адміністрацыйнаму статусу пасёлак Жыткавічы знаходзіцца паміж горадам і вёскай. Значная частка насельніцтва там не працуе на зямлі пастаянна, але амаль кожны мае ўласную гаспадарку. Менавіта такія пасёлкі часцей за ўсё і абіраюць для стварэння паказушных аграгарадкоў.

Дзякуючы «Вандроўкам у мінулае», якія ладзіць старшыня Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч, мне давялося пабываць у розных канцах Беларусі, пабачыць дзясяткі розных аграгарадкоў. І вось што цікава — надзвычай рэдка каля дома можна знайсці нейкае садовае дрэва, што абсалютна не ўласціва для Беларусі. Тлумачыцца ўсё вельмі празаічна — людзі не збіраюцца там жыць доўга.

## Юрыдычным шляхам

У Жылічах — адна сярэдняя школа. Яе ў 1984 годзе з залатым медалём і скончыў Алег Гулак. Для паступлення абраў юрыдычны факультэт БДУ. Цікава, што ніхто ў родзе Гулакаў не быў юрыстам, таму на маё пытанне наконт прычын выбару ён адказаў вельмі проста — спадабалася.

Хто вучыўся на юрфаку побач з Алегам, я спецыяльна распавядаць не буду. Як і называць канкрэтныя прозвішчы, бо многія з іх сёння працуюць на даволі высокіх пасадах. На жаль, гэта адна з прыкмет нашага часу: хто не з намі — той супраць нас. У 1989 годзе Алег Гулак паспяхова атрымаў вышэйшую адукацыю.

Па размеркаванню яго накіравалі ў родную Магілёўскую вобласць падымаць мясцовы аграпром. Як і сёння — бліжэй да Чарнобыльскай зоны. Але прабыў Гулак там толькі два тыдні. Менавіта яны сталі ў нейкім сэнсе праваабарончым дэбютам.

Справа ў тым, што ўжо пасля выпуску ён ажаніўся з будучым філолагам Анастасіяй, якую да гэтага ведаў амаль тры гады. Дарэчы, шлюбы паміж юрыстамі і філолагамі былі нярэдкасцю. І не толькі таму, што на юрфаку навучаліся пераважна юнакі, а на філфаку — дзяўчаты, яшчэ і таму, што студэнты гэтых факультэтаў жылі ў адным інтэрнаце, і стрэлам Амура было значна лягчэй знаходзіць «ахвяраў».

Не буду пераказваць усе падрабязнасці змагання Алега Гулака з аграпрамаўскімі чыноўнікамі, якія вельмі своеасабліва (калі не сказаць больш) трактавалі тагачасныя законы. Адзначу толькі, што ўрэшце ён дамогся свайго і паехаў працаваць у Пінск, куды размеркавалі настаўніцай жонку.

Дакладней, стаў юрыст-кансультам завода «Камертон», які з'яўляецца часткай вядомага «Інтэграла». І апынуўся, як кажуць, паміж молатам і кавадлам. Хутка пачаліся так званыя «скарачэнні», а Алег прынцыпова заклікаў усё рабіць законна. Вынік быў прадказальны. Адміністрацыя вінавацціла яго ў падыгрыванні рабочым, а тыя ўзгадвалі выслоўе пра дудку адміністрацыі…

## Супраць плыні

На «Камертоне» Алег Гулак прапрацаваў тры гады. Напэўна, гэта цягнулася б і надалей, каб ён не пазнаёміўся з лідарам мясцовых сацыял-дэмакратаў Віктарам Ярашуком, які працаваў фізруком у школе жонкі. Ярашук на той час быў даволі вядомай асобай. І не толькі ў журналісцкім асяроддзі.

Менавіта пінская школа №12 у пачатку 1990-х, у тым ліку і намаганнямі Ярашука, правяла страйк, дзе галоўнымі былі палітычная патрабаванні. Дый сам Алег Гулак актыўна пачаў цікавіцца палітыкай. Дакладней, тым, што лаканічна называецца трэцім сектарам.

Таму цалкам лагічным было тое, што ён актыўна ўключыўся ў стварэнне Пінскай суполкі Беларускага Хельсінскага камітэту. Нелагічным сёння падаецца іншае. БХК быў створаны ў 1995 годзе, а яго пінская філія — у 1996-м. Каб правесці сустрэчу з мінскімі гасцямі, Алег Гулак звярнуўся да тагачаснага намесніка старшыні гарвыканкама, і той прапанаваў сваю малую залю…

Больш за тое, офіс пінскай структуры Беларускага Хельсінскага камітэта некаторы час арэндаваў памяшканне ў адным будынку з мясцовым КДБ. Яны нават месціліся на адным паверсе. Рознымі былі толькі ўваходы.

У 1997 годзе Анастасія паступіла ў аспірантуру БДУ, і яны разам з дачкой Дамінікай пераехалі ў Мінск, а Алег пачаў працаваць у цэнтральным офісе БХК. Спачатку звычайным юрыстам, потым выканаўчым дырэктарам, намеснікам старшыні, а з 2006 года — старшынёй.

Менавіта на гэты час прыходзіцца пачатак аднаго з самых складаных перыядаў дзейнасці праваабаронцаў, бо за некалькі месяцаў да абрання Алега Гулака старшынёй, нечакана былі адменены рашэнні ўсіх гаспадарчых судоў, якія разглядалі іх справу.

Гаворка пра добра вядомую гісторыю вакол грантаў Еўракамісіі па праграме TACIS. Нягледзячы на тое, што гэтыя гранты афіцыйна не абкладаліся падаткамі, айчынныя фінансавыя пінкертоны налічылі праваабаронцам аж 155 мільёнаў (беларускіх рублёў, канешне) штрафаў, якія з улікам пені зараз ператварыліся ў больш за 200 мільёнаў.

Не засмуціла нават тое, што гранты былі ў межах міждзяржаўных пагадненняў, што аналагічныя грошы атрымлівалі яшчэ 29 структур, што нават беларускія суды палічылі гэтыя прэтэнзіі нонсенсам… Калі ўзгадаць знакамітае: «ты вінаваты толькі тым, што хочацца мне есці», дык трэба канстатаваць — «есці» захацелася напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 года…

Пройдзе пяць гадоў — і той «падатковы наезд» стане прычынай папярэджання, якое Міністэрства юстыцыі вынесе на адрас БХК 6 чэрвеня 2011 года.

Пра іх астатнія «прыгоды» гаварыць няма сэнсу, бо яны і так добра вядомыя. Зраблю акцэнт толькі на тым, што сёння БХК — АДЗІНАЯ (!) незалежная праваабарончая арганізацыя ў краіне, якая захавала свой легальны статус. Іншых «зачысцілі».

Напэўна, некаторыя не ўбачаць тут нічога экстраардынарнага. Маўляў, падумаеш — не падставіліся… З гэтым можна пагадзіцца, калі цалкам не ўлічваць абставіны, у якіх мы ўсе сёння жывем. А абставіны такія, што над Алегам Гулакам амаль шэсць гадоў вісіць дамоклаў меч, які ўшчэнт знішчыць яго структуру, калі для гэтага будзе адносна «прыстойная» падстава.

Пагадзіцеся, не скарыцца, не сцішыцца ў такіх умовах, і пры гэтым адстаяць, захаваць арганізацыю, болей чым не проста. Асабліва, калі тая раздражнее ўладу, не менш, чым чырвоная ануча быка. Перш за ўсё, тым, што не дае ажыццяўляць поўнае прававое бязмежжа. У мінулым годзе БХК нават заклікаў Вярхоўны суд адмяніць вынікі прэзідэнцкіх выбараў 2010 года.

Хельсінскі камітэт юрыдычна (даволі прафесійна) дапамагае тым, хто, каб не БХК і іншыя праваабарончыя арганізацыі, сёння быў бы цалкам безабаронны.

## Прымусовая дыялектыка

Не так даўно я ў чарговы раз пераканаўся, што ў гэтым свеце ўсё паўтараецца на новым ўзроўні. Зараз Алег Гулак вымушаны заняцца тым, з чаго і пачыналася яго юрыдычная кар'ера — абаронай асабістых правоў. Маецца на ўвазе пошук канцоў, якія зрабілі яго невыязным.

Цалкам не падзяляю скепсіс з гэтай нагоды. Маўляў, у нашых судах праўды дабіцца немагчыма па вызначэнню.

Па-першае, можна прывесці добры дзясятак аргументаў і фактаў, якія абвяргаюць гэты лозунг.

Па-другое, краіна павінна ведаць сваіх герояў. А то ў нас часцей за ўсё робіцца так: нейкі ананім прыдумляе розныя дробныя брыдасці, і ніхто толкам не ведае, каму трэба за іх дзякаваць.

Што тычыцца адыёзнай прапановы адыёзнага (былога) прапагандыста наконт грамадзянства, то тут я пагаджуся толькі тады, калі абмежаванні пачнуцца з такіх, як аўтар прапановы. А то «змыюцца» ў Расію і пачынаюцца адтуль палiваць нашу «стабільнасць», за якую не так даўно самі ж прапаноўвалі даць Нобелеўскую прэмію ў галіне эканомікі…

Калі я працаваў над гэтым нарысам, то некалькі разоў даводзілася чуць прэтэнзіі наконт скрупулёзнасці і зусім не нямецкай абавязковасці Алега Гулака. Больш за тое, сам пераканаўся, што для падобных меркаванняў ёсць пэўныя падставы.

Але, на мой погляд, гэта рыса не самая галоўная ў характары героя нарыса. Бездакорных людзей няма ўвогуле. Да таго ж, на забыўлівасць грашыць часцей той, хто мае справу з аграмаднай плынню інфармацыі.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 11 ЧЭРВЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Час Саюза.
**11.00** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Мультфільмы.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**16.20** Меладраматычны серыял «Шырокая рака» (Расія-Украіна). 1-я серыя.
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Арэна.
**18.45, 23.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Дэтэктыўны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**00.00** Дзень спорту.
**00.15** Гістарычная драма «Агора» (Іспанія).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Фільм «Верныя сябры».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Дублёр».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.05** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адчынены фармат».
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Фільм «Стацкі дараднік».
**01.30** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Механічны апельсін».
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Трывожны адпачынак адваката Ларынай». Украіна, 2008 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Кінаспробы.
**09.35** Навіны надвор'я.
**10.05** Драматычны серыял «Вар'яты-2».
**11.05** Меладрама «Інсайт» («Беларусьфільм»).
**12.50** Кінааповесць «Да мяне, Мухтар!» (СССР).
**14.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**15.00** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.00** Камедыйны серыял «Светлафор».
**16.40** Рэгіянальная праграма.
**17.45** Беларуская часіна.
**18.50** Футбол. Эўра-2012. Францыя - Англія. Прамая трансляцыя.
**20.55** Актуальнае інтэрв'ю АТН.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. Украіна - Швецыя. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.15** Камедыйны серыял «Светлафор».
**00.45** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** «Гарадок». Дайджэст.
**07.30** Фільм «Старэйшы сын».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Фільм «Пернікі з бульбы» (2011 г.).
**13.00** Тэлесерыял «Запіскі экспедытара таемнай канцылярыі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.15** Тэлесерыял «Запіскі экспедытара таемнай канцылярыі». Працяг.
**15.10** «Песня года». Частка першая.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** «Песня года». Частка першая. Працяг.
**18.00** Фільм «Зязюля» (2010 г.).
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.15** Фільм «Зязюля» (2010 г.). Працяг.
**22.00** Навіны - Беларусь.
**22.10** Фільм «Калі заквітнее багун» (2010 г.).

### НТВ

**06.30** Цэнтр дапамогі «Анастасія».
**07.05** «Таемны шоў-бізнэс».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**08.50** Іх норавы.
**09.30** Ямо дома.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.20** «Развод па-руску».
**14.10** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**15.50** «Справа густу».
**16.15** І зноў добры дзень!
**17.10** «Пракурорская праверка».
**18.15** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Новае жыццё шпіка Гурава. Працяг».
**23.00** Прэм'ера. «Прыгожая мая». Канцэрт.
**00.35** Серыял «Гадзіна Волкава».

### EUROSPORT

**00.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Германія - Партугалія.
**02.00** Тэніс.
**02.45** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**09.30** Аўта і Матаспорт: Матаспартыўны часопіс.
**09.45** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Германія - Партугалія.
**11.45** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Нідэрланды - Данія.
**13.45** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**14.00** Алімпійскія гульні.
**14.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**14.30** Тэніс: Турнір АТР. Queen's - Дзень 1.
**21.00** Футбол.
**21.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**21.45** Усе віды спорту.
**21.50** Пра рэстлінг.
**22.20** Усе віды спорту.
**22.30** Пра рэстлінг.
**23.30** Аўтагонкі.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Англійская для дзяцей.
**07.50** Казкі для дзетак.
**07.55** Басанож па свеце.
**08.25** Зона «Свабоды».
**08.55** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**09.05** Дакументальная гадзіна: «Малыя здабыўцы», дак. фільм, 2009 г., Германія.
**09.50** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.20** «Каралева Бона», тэлесерыял: 1 серыя.
**11.15** «Супраць забыцця. След дыктатураў», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**12.50** Размовы эксперта.
**13.15** Кружэлка (музычная праграма).
**13.40** «Арол: крымінальная сага», серыял: 2 серыя.
**14.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.50** «Палкоўнік Квяткоўскі», маст. фільм, 1995 г., Польшча.
**17.00** Дакументальная гадзіна: «Малыя здабыўцы», дак. фільм, 2009 г., Германія.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 5 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Басанож па свеце.
**19.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Еўропа сёння.
**20.35** Размовы эксперта.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Праўда Хатыні», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**22.05** Фільматэка майстроў: «Мой брат – адзіны сын», маст. фільм, 2007 г., Італія.
**23.45** Аб'ектыў.
**00.15** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**01.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 12 ЧЭРВЕНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Прыгодніцкі серыял «Рабінзон» (Расія).
**10.05** Арэна.
**10.30** Культурныя людзі.
**10.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Дэтэктыўны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Здароўе.
**16.15** Меладраматычны серыял «Шырокая рака» (Расія-Украіна). 2-я серыя.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Прыгодніцкі серыял «Рабінзон» (Расія).
**23.05** Дэтэктыўны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Драма «Інтэрдзяўчынка» (СССР-Швецыя). 1-я і 2-я серыі.

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.00** «Аляксандр Розэнбаум. Мой дзіўны сон».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Фільм «Шчаслівая, Жэнька!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Фільм «Паненка-сялянка».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Дуэнья».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Прэм'ера. Фільм «Дом на краі».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Уцёкі». Новы сезон.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Фільм «Турэцкі гамбіт».
**01.35** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.45** Фільм «Трывожны адпачынак адваката Ларынай». Украіна, 2008 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.35** Фільм «Пятае вымярэнне». ЗША-Канада, 2008 г.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Дыверсант». Серыял.
**21.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Небяспечны месяц».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Скарбніца Гомельшчыны.
**09.30** Цела чалавека.
**10.05** Драматычны серыял « Вар'яты-2» (ЗША).
**11.05** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.35** Школа рамонту.
**13.40** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**15.00** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.00** Камедыйны серыял «Светлафор».
**16.40** Рэгіянальная праграма.
**17.45** Беларуская часіна.
**18.50** Футбол. Эўра-2012. Грэцыя - Чэхія. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. Польшча - Расія. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.15** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**00.45** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** Камедыя «Волга-Волга».
**08.45** Фільм «Гараджане».
**10.15** Фільм «Няскончаная аповесць».
**12.00** Масква. Крэмль. Цырымонія ўручэння Дзяржаўных прэмій Расійскай Федэрацыі.
**13.00** Тэлесерыял «Запіскі экспедытара таемнай канцылярыі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.15** Тэлесерыял «Запіскі экспедытара таемнай канцылярыі». Працяг.
**15.10** «Песня года». Частка другая.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** «Песня года». Частка другая. Працяг.
**18.10** Фільм «Люба. Любоў» (2011 г.).
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.15** Фільм «Люба. Любоў» (2011 г.). Працяг.
**22.00** Навіны - Беларусь.
**22.10** Фільм «Справы сямейныя» (2012 г.).
**23.55** Расія маладая». Святочны канцэрт.

### НТВ

**06.25** Цэнтр дапамогі «Анастасія».
**07.05** «Таемны шоў-бізнэс».
**08.00** Сёння.
**08.20** Серыял «Ліцейны».
**09.20** «Увага, вышук!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.10** «Да суду».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.20** «Развод па-руску».
**14.00** Фільм «Памылка следства».
**15.40** Фільм «Бамжыха».
**17.20** Фільм «Бамжыха-2».
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Новае жыццё шпіка Гурава. Працяг».
**22.55** Фільм «Страшныя лейтэнанты».
**00.30** Серыял «Гадзіна Волкава».

### EUROSPORT

**00.00, 10.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Іспанія - Італія.
**02.00, 09.30, 23.15** Аўтагонкі.
**02.30, 04.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Расія - Чэхія.
**12.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Польшча - Грэцыя.
**14.00** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**14.10** Фітнэс.
**14.30** Тэніс: Турнір АТР. Queen's - Дзень 2.
**21.00** Футбол.
**21.30** Тэніс: Турнір АТР. Queen's - Дзень 2.
**22.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**23.45** Конны спорт. Агляд тыдня.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** Дакументальная гадзіна: «Малыя здабыўцы», дак. фільм, 2009 г., Германія.
**08.20** «Час гонару», серыял: 5 серыя.
**09.10** Басанож па свеце.
**09.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.45** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.15** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**10.35** «Праўда Хатыні», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**11.10** Фільматэка майстроў: «Мой брат – адзіны сын», маст. фільм, 2007 г., Італія.
**12.55** Два на два (тэледыскусія).
**13.25** «Супраць забыцця. След дыктатураў», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**14.55** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**15.50** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**16.20** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**16.40** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: Канцэрт гурта «Svet Boogie Band».
**17.00** «Горад над ракой Чорнага Цмока», дак. фільм, 2006 г., Польшча.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 6 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**19.25** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Беларусы ў Польшчы.
**21.45** «Бландзінка», серыял: 11 серыя.
**22.30** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «З выцягнутымі рукамі», дак. фільм: ч. 1.
**23.30** МакраФон: «Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў тэатры «Буфо»»: ч. 2.
**00.00** Аб'ектыў.
**00.30** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**01.25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 13 ЧЭРВЕНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Прыгодніцкі серыял «Рабінзон» (Расія). Заключная серыя.
**10.00** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Скрынка перадач.
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Дэтэктыўны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Зона камфорту.
**16.00** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**16.10** Меладраматычны серыял «Шырокая рака» (Расія-Украіна). 3-я серыя.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**21.00** Панарама.
**21.45** Адмысловы рэпартаж АТН.
**21.55** Прыгодніцкі серыял «Рабінзон» (Расія). Заключная серыя.
**23.05** Дэтэктыўны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Баявік «.Па мянушцы «Звер» (СССР).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.10** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Уцёкі». Новы сезон.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Асяроддзе пасялення.
**00.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінскчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Дыверсант». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.35** «Меч». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінскчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Дыверсант». Серыял.
**21.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Дзіўная справа».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Цела чалавека.
**09.35** Наперад у мінулае.
**10.10** Драматычны серыял « Вар'яты-2» (ЗША).
**11.40** Бухта капітанаў.
**12.20** Вышэйшая мера.
**13.05** Серыял «Дзяржаўная мяжа» («Беларусьфільм»).
**14.25** Ясі і худзеі.
**15.00** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.00** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**16.40** Рэгіянальная праграма.
**17.45** Беларуская часіна.
**18.50** Футбол. Эўра-2012. Данія - Партугалія. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. Нідэрланды - Германія. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.15** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**00.40** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00** Весткі.
**11.25** «Кулагін і партнёры».
**11.55** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі-Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Мая вялікая сям'я».
**22.15** Тэлесерыял «Абаронца».
**23.10** Навіны - Беларусь.
**23.20** «Пах Радзімы».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Ліцейны».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суду».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.30** Дэтэктыўны серыял «Павуцінне».
**15.05** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Выратавальнікі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Новае жыццё шпіка Гурава. Працяг».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Глушэц».

### EUROSPORT

**00.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Францыя - Англія.
**02.00, 09.30, 23.40** Аўтагонкі.
**10.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Нідэрланды - Данія.
**12.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Германія - Партугалія.
**14.00** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**14.10** Тэніс: Турнір АТР. Queen's - Дзень 2.
**14.30** Тэніс: Турнір АТР. Queen's - Дзень 3.
**21.00** Футбол.
**21.30** Абранае па серадах.
**21.35** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**21.40** Гольф: Тур PGA. Гольф FedEx St. Jude Classic.
**22.40** Гольф: Еўрапейскі тур.
**23.10** Гольф: Еўрапейскі тур. Жанчыны.
**23.20** Гольф: Гольф Клуб.
**23.25** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**23.30** Усе віды спорту.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** «Горад над ракой Чорнага Цмока», дак. фільм, 2006 г., Польшча.
**08.20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.30** «Час гонару», серыял: 6 серыя.
**09.15** Навігатар.
**09.30** Паляванне на дзівосы.
**09.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.20** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**10.40** Беларусы ў Польшчы.
**10.55** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «З выцягнутымі рукамі», дак. фільм: ч. 1.
**11.55** «Бландзінка», серыял: 11 серыя.
**12.40** «Горад над ракой Чорнага Цмока», дак. фільм, 2006 г., Польшча.
**13.20** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**14.20** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**14.35** Паляванне на дзівосы.
**15.55** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.25** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**15.45** Беларусы ў Польшчы.
**16.05** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «З выцягнутымі рукамі», дак. фільм: ч. 1.
**17.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 2 серыя.
**17.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 7 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня».
**20.35** Аўтастопам праз Еўропу.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Побач з намі.
**21.40** «Дэкалог, дзесяць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**22.45** «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**23.10** Аб'ектыў.
**23.35** «Зграя», сенсацыйны серыял: 3 серыя.
**00.30** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 14 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**10.05** Зямельнае пытанне.
**10.30** Да цешчы на бліны.
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Дэтэктыўны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Мультфільм.
**15.35** Медычныя таямніцы.
**16.00** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**16.15** Меладраматычны серыял «Шырокая рака» (Расія-Украіна). 4-я серыя.
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**23.05** Дэтэктыўны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Драма «Жыццё гэтага хлопца» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.10** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Уцёкі». Новы сезон.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Прэм'ера. «Нам не жыць адзін без аднаго».
**00.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінскчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Дыверсант». Серыял.
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.20** «Дарагая перадача».
**14.35** «Меч». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінскчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Дыверсант». Серыял.
**21.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Яшчэ не вечар».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вышэй за дах.
**09.35** Ясі і худзеі.
**10.10** Драматычны серыял «Вар'яты-2».
**11.05** Страсці па культуры.
**11.55** Жансавет.
**12.30** Альбарутэнія.
**13.05** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**14.25** Ясі і худзеі.
**14.55** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.00** Камедыйны серыял «Светлафор».
**16.40** Рэгіянальная праграма.
**17.45** Беларуская часіна.
**18.50** Футбол. Эўра-2012. Італія - Харватыя. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. Іспанія - Ірландыя. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.15** Камедыйны серыял «Светлафор».
**00.45** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.25** «Кулагін і партнёры».
**11.55** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** Тэлесерыял «Мая вялікая сям'я».
**22.15** Тэлесерыял «Абаронца».
**23.10** Навіны - Беларусь.
**23.20** «Землятрус. Хто наступны?».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Ліцейны».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Следства вялі.
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.30** Дэтэктыўны серыял «Павуцінне».
**15.05** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Новае жыццё шпіка Гурава. Працяг».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Глушэц».

### EUROSPORT

**00.05** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Польшча - Расія.
**02.05** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012: Грэцыя - Чэхія.
**09.30** Фітнэс.
**09.45** Конны спорт. Агляд тыдня.
**10.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Ірландыя - Харватыя.
**12.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Іспанія - Італія.
**14.00** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**14.10** Алімпійскія гульні.
**14.30** Тэніс: Турнір АТР. Queen's - Дзень 4.
**21.00** Футбол.
**21.30** Тэніс: Турнір АТР. Queen's - Дзень 4.
**22.30** Аўтагонкі.
**23.00** Аўтагонкі. Гонка «24 гадзіны Ле Мана» - Кваліфікацыйны раўнд.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.40** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 2 серыя.
**08.25** Побач з намі.
**08.40** «Час гонару», серыял: 7 серыя.
**09.25, 14.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00** Праект «Будучыня».
**10.25** Аўтастопам праз Еўропу.
**10.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**10.55** «Дэкалог, дзесяць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**11.50** «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**12.25** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: Канцэрт гурта «Dali».
**12.35** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 2 серыя.
**13.20** Побач з намі.
**13.35** «Зграя», сенсацыйны серыял: 3 серыя.
**14.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.05** Праект «Будучыня».
**15.30** Аўтастопам праз Еўропу.
**15.50** «Дэкалог, дзесяць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**16.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**17.00** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 2 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 8 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** «Тэра постсаветыка. Школа кадэтак», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.40** Хто ёсць кім?: «Алесь Сураў – непакорны мастак», рэпартаж.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Паляванне на дзівосы.
**21.45** «Дэфект», тэлесерыял: 2 серыя.
**22.40** «Зямля», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**23.15** Аб'ектыў.
**23.40** «Зграя», сенсацыйны серыял: 4 серыя.
**00.35** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

ПАРАЛЕЛІ

# СІНАФОБІЯ СУПРАЦЬ НАЗАРБАЕВА

**Апошнім часам сярод часткі беларусаў папулярны заклікі супраць кітайскай экспансіі. Стаўка на сінафобію, між тым, даўно характэрная для казахскіх дысідэнтаў. Пра тое, наколькі этычна ўжываць фобіі ў барацьбе за дэмакратыю, журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з казахскім журналістам Андрэем Грышыным.**

***— У Маскве на днях адбылася вялікая прэс-канферэнцыя казахскіх апазіцыянераў, прысвечаная падзеям у Жанаазене. Асаблівы акцэнт рабіўся на тым, што прадпрыемства, на якім адбыўся страйк, што ў выніку скончыўся расстрэлам мірных людзей, належала кітайцам. Наколькі вялікая роля сінафобіі ў арсенале казахскай апазіцыі?***

— Гэта тэма не дамінуе, аднак стала прысутнічае. Больш за тое, некаторыя апазіцыйныя палітыкі рэгулярна займаюцца распаўсюдам жахаў пра навалу кітайцаў. Напрыклад, былы зяць Назарбаева Аліеў, які жыве ў эміграцыі, перыядычна кідае ў інтэрнэт розныя матэрыялы, якія пасля передрукоўваюць у апазіцыйных і незалежных электронных СМІ Казахстана.

Сутнасць іх у тым, што ідзе лабіраванне ўладамі Казахстана інтарэсаў кітайцаў. Так, памятаю, у мінулым годзе Аліеў паведаміў, што быццам існуе сакрэтная дамова паміж Астаной і Пекінам пра перадачу казахстанскім бокам Кітаю аднаго мільёна гектараў зямлі ў арэнду тэрмінам на 99 гадоў. Ён таксама абвінаваціў Назарбаева ў тым, што той быццам заручыўся падтрымкай Кітая на выпадак спробы рэвалюцыі ў Казахстане. І першая, і другая навіна аказаліся несапраўднымі.

***— Так ці інакш, можна зразумець, што ў казахскім грамадстве існуе запыт на такую тэму. Гэта неяк звязана з гісторыяй кітайска-казахскіх адносін?***

— Адпаведна апытанням, прыкладна 18 працэнтаў казахаў не любяць усходніх суседзяў. Тут ёсць гістарычны фактар. У XVIII–XIX стагоддзях казахскія роды змагаліся супраць кітайскай каланізацыі. Паколькі фармальнай мяжы ў стэпу няма, было шмат памежных сутычак. Нават у 1969 годзе адбыўся памежны канфлікт з мааістамі каля возера Жаланашколь, калі было забіта каля 10 савецкіх салдат. Аднак пра гэта мала хто памятае.

Безумоўна, найбольшую ролю ў нагнятанні антыкітайскіх настрояў адыгрываюць вядомыя факты пераходу пад кантроль кітайскіх кампаній шматлікіх прадпрыемстваў у Казахстане. Гэта часта падаецца ў СМІ Казахстана (і перш за ўсё ў апазіцыйнай прэсе) як пагроза нацыянальным інтарэсам, нацыянальнай бяспецы краіны. Плюс міфы пра магчымую працоўную міграцыю.

***— Ці сінафобія характэрна і для этнічных казахаў і для рускамоўных?***

— Найбольш негатыўна ставяцца да кітайцаў у Казахстане тутэйшыя — 21%. У той час, як сярод апытаных рускіх гэты паказчык склаў 15%. Гэта звязана з тым, што казахі з-за ўкладу жыцця больш архаічныя, прывязаныя да зямлі, і тэма прэтэнзій Кітаю на захоп часткі тэрыторыі ўспрымаецца імі больш балюча. Што тычыцца рускамоўных, то, на маю думку, тут папрацавалі рускія каналы, дзе шмат ксенафобіі.

Аднак вельмі важна, што сінафобія таксама характэрная ў большасці для старой генерацыі. Нават сельская моладзь, якая імкнецца ў горад, бачыць у кантактах з кітайцамі магчымасць зрабіць нейкі бізнэс.

***— Калі паглядзець на спіс апазіцыйных партый і рухаў Казахстана, можна заўважыць наяўнасць там шматлікіх левых — значыць, быццам інтэрнацыянальных партый. Яны таксама падтрымліваюць сінафобскія лозунгі?***

— У маі мінулага года ў былой сталіцы прайшоў аб'яднаны мітынг усіх апазіцыйных партый. Сярод удзельнікаў былі Агульнанацыянальная сацыял-дэмакратычная партыя (ОСДП) «Азат», Кампартыя Казахстана, рух «Сацыялістычны супраціў». Яны прынялі рэзалюцыю, у якой ставілі пытанне пра спыненне эканамічнай экспансіі Кітая ў Казахстан. Таксама выносілася пытанне пра прыпыненне рэалізацыі раней запланаваных сумесных казахска-кітайскіх эканамічных праектаў.

***— Чаму апазіцыянеры супраць кітайскага капіталу? Хіба сацыяльныя і прафсаюзныя правы на прадпрыемствах, якія кантралююць кітайцы, нашмат горш, чым на тых, дзе мясцовае кіраўніцтва?***

— Зараз большасць нафтаздабываючых прадпрыемстваў заходняга Казахстана кантралюе кітайскі капітал, ім належыць больш за 50% акцый. Прычым гэта дзяржаўны кітайскі капітал, а не прыватны. Па словах апазіцыі, кітайскія дзяржаўныя менеджары кепска ведаюць працоўнае заканадаўства нашай краіны і усталёўваюць свае парадкі і ўмовы аплаты працы, накіраваныя на максімальную эксплуатацыю нанятых працоўных. Так, галоўны ініцыятар крымінальнай справы супраць прафсаюзнага юрыста Наталлі Сакаловай у Жанаазене быў Юань Му, сябра Камуністычнай партыі Кітая.

Але такое буйное прадпрыемства, як у Жанаазене, каму б яно ні належала, можна сапраўды эфектыўна прыгнятаць працоўных толькі ў кантакце з мясцовай адміністрацыяй. Узгадайце, што асудзіў Сакалову на 5 гадоў не Юань Му, а казахскі суддзя. Таму валіць усе сацыяльныя і экалагічныя праблемы на кітайцаў было б несправядліва.

***— Наколькі можна верыць апазіцыйным расказам пра тое, што Назарбаеў — тайны агент Кітая?***

— Гэта поўная лухта, асабліва калі ўзгадаць 1990-я гады. Тады меў месца вялікі зямельны канфлікт уздоўж кітайска-казахскай мяжы. Акрамя таго Алма-Ата, якая тады была сталіцай, надала на нейкі час прытулак уйгурскім сепаратыстам. Больш таго — афіцыйная Астана час ад часу сама імкнецца ўзмацніць анты-кітайскія настроі. Найбольш актыўна яны праяўляюцца перад з'яўленнем сур'ёзных сумесных казахска-кітайскіх праектаў або на пачатку дзейнасці кітайскіх камерцыйных структур на тэрыторыі Казахстана.

У якасці прыкладу можна ўзгадаць нечаканую ініцыятыву дэпутатаў парламенту, якія прапанавала нават забараніць шлюбы паміж казахамі і кітайцамі, і наогул увесці квоту для эмігрантаў з Усходу. З улікам таго, што ўвесь папярэдні парламент складаўся з сяброў прэзідэнцкай партыі, не верыцца, што тыя дэпутаты маглі дазволіць сабе дэмарш без згоды зверху.

Нарэшце, сам уваход Казахстана ў склад Мытнага саюза некаторыя чыноўнікі тлумачылі тым, што гэта будзе бар'ер на шляху кітайскай экспансіі. І адначасова другая група чыноўнікаў падкрэслівала, што альтэрнатывы стратэгічнаму партнёрству Кітая і Казахстана няма. Як бачым, у Астаны больш прагматычная палітыка, у якой галоўная задача — захаваць свой феод як ад Масквы, так і ад Пекіна, згуляць на супярэчнасці іх інтарэсаў.

***— Што будзе далей з гульнёй у «антыкітайскую карту»?***

— Як бачым, сінафобія мабілізуе нейкую частку грамадства, аднак не ўяўляе фатальнай пагрозы для рэжыму, які сам час ад часу маніпулюе гэтай тэмай. Аднак нават калі апазіцыя адмовіцца ад прапаганды сінафобіі, яна нікуды не знікне. Прычыны хваробы ў працэсах сацыяльнай маргіналізацыі насельніцтва, якая нараджае прымітыўныя сцэнары рашэння праблем. Гэта добра можна пабачыць на тым, як імкліва знайшоў сабе базу падтрымкі ў Казахстане ісламскі экстрэмізм.

**У Астаны больш прагматычная палітыка, у якой галоўная задача — захаваць свой феод як ад Масквы, так і ад Пекіна, згуляць на супярэчнасці іх інтарэсаў**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЛЕАНІД ЧАРНАВЕЦКІ



Цяпер ужо былы мэр Кіева, які фактычна не кіраваў горадам апошнія гады, 1 чэрвеня падпісаў заяву з просьбай пра адстаўку. Так закончылася эпапея самага арыгінальнага бургамістра ў гісторыі ўкраінскай сталіцы. Чарнавецкі ўвойдзе ў гісторыю як аўтар мноства эксцэнтрычных ініцыятыў, кшталту платнага ўезду на магілкі, праверкі падпарадкаваных на дэтэктары хлусні, продажу для бізнэсмэнаў права паабедаць з мэрам. У 2009 годзе Леанід Чарнавецкі звольніў дырэктара гарадскога заапарка за тое, што той не змог забяспечыць слана ежай і не знайшоў яму сланіху. Пасля гэтага за кожным службоўцам замацавалі асобную жывёлу. Пры гэтым мэр нават пастанавіў віншаваць звяроў са святамі. Сваю мянушка «Лёня Космас» Леанід Чарнавецкі атрымаў пасля публічнай заявы пра гатоўнасць адправіцца на арбіту разам са сваім катом. Прычына адстаўкі Чарнавецкага цалкам не вядомая, аднак аматары жартаў звязваюць яе з правалам калектыву «Буранаўскія бабулек» на Еўрабачанні. Справа ў тым, што электаратам Чарнавецкага былі бабусі, якіх ён называў «мае бабулькі». Быццам, тое, што бабулькі прайгралі, канчаткова дабіла мэра. Застаецца сказаць, што Чарнавецкаму ёсць годная замена. Так, Алег Ляшко, лідар Радыкальнай партыі — адкрыты гомасэксуаліст — ужо абвясціў пра жаданне стаць новым мэрам і паабяцаў у выпадку перамогі зрабіць Кіеў сталіцай свету. Самае цікавае, што за яго гатовы галасаваць прыкладна адзін працэнт жыхароў сталіцы.

### ТАМІСЛАЎ НІКОЛІЧ



Лідар сербскіх нацыяналістаў не паспеў афіцыйна стаць прэзідэнтам Сербіі па выніках выбараў, як пачаў высоўваць тэрытарыяльныя прэтэнзіі суседзям. Так, у адной з першых прамоў ён адзначыў, што з'яўляецца прыхільнікам канцэпцыі Вялікай Сербіі — дзяржавы, якая мусіць уключаць у свае межы амаль усе славянскія народы Балкан. Пасля Ніколіч сфармуляраваў свае апетыты больш канкрэтна. Ён паставіў пад сумненне тое, што горад Вукавар з'яўляецца харвацкім. Вукавар, па яго словах, заўсёды быў сербскім. Ніколіч таксама адзначыў, што хаця і прызнае Чарнагорыю як асобную дзяржаву, у душы не бачыць розніцы паміж сербамі і чарнагорцамі. Харваты спасылаюцца на тое, што напярэдадні развалу Югаславіі большасць жыхароў Вукавара, паводле статыстыкі, складалі этнічныя харваты. Чарнагорцы, здаецца, агідную тыраду праігнаравалі, а вось Харватыя, наадварот, заявіла ноту пратэсту і патрабавала ў Заграба дыпламатычных прабачэнняў.

### ХАНС-ХРЫСЦЯН ШТРОБЕЛЕ



Лідар экалагічных фундаменталістаў у нямецкай партыі Зялёных, дэпутат Бундэстагу запатрабаваў аднавіць справу па тэракту, які меў месца ў верасні 1980 года на Мюнхенскім піўным фестывалі Актобэрфэст. 26 верасня 1980 года ў сметніцы каля грамадскай прыбіральні дэтанавала выбуховае прыстасаванне. У выніку тэракту загінула 13 і было паранена больш за 200 наведвальнікаў свята. Па выніках афіцыйнага расследавання лічыцца, што неанацыст Келер — арганізатар выбуху — дзейнічаў адзін. Між тым, на днях у архівах спецслужб Усходняй Германіі знайшлі матэрыялы, прысвечаныя выбуху на Актобэрфэсце. Аказваецца, разведчыкі ГДР правялі нешта накшталт свайго расследавання і заключылі, што Келер не быў адзіночкай. На іх думку, за ім стаяла нейкая арганізацыя, а сляды замоўнікаў увогуле вядуць у Італію. Італія ў тыя часы перажывала бум правага і левага тэрору, за якім часта стаялі мясцовыя сілавікі. Штробеле ўпэўнены ў тым, што арганізатары тэракту ў Мюнхене маглі быць звязаныя з групоўкай Нацыянал-сацыялістычны супраціў (NSU), якую паліцыя раскрыла ў мінулым годзе.

▸ МЕРКАВАННЕ

# АЎТАПРАБЕГАМ ПА ЕЎРОПЕ

**Ён толькі вярнуўся з турнэ па Еўропе, якой распавядаў пра беларускіх палітвязняў, а ўжо праз два тыдні зноў з'язджае туды — адпачываць на паўночны востраў. А ў «чорным спісе» забароненых рок-музыкаў ён стаіць пад нумарам 2, пасля «Ляпісаў». Хросны бацька ягоных дзетак — шведскі амбасадар, а натхняльнік новага альбому, які мусіць выйсці ўвосень, — польскі паэт-самагубца. Касмапалітычны беларускі шансанье і камандзір легіёна жаночых сэрцаў Зміцер Вайцюўкевіч дзеліцца з журналістам НЧ Аленай Барэль тым, што зараз адбываецца з ім і з радзімай.**


Фота аўтара

## «Solidarity with Belarus»

***— Зміцер, распавядзіце нам пра еўрапейскае турнэ, з якога вярнуліся днямі. Што рабілі на Захадзе?***

— Гэта была музычна-палітычная акцыя пад назвай «Solidarity with Belarus», ініцыятарам, вядучым і выканаўцам якой быў я, як творчая адзінка і ўдзельнік славутых «чорных спісаў». З 8 па 18 мая — сем краін, дзевяць розных гарадоў: Вільня, Варшава, Берлін (у рамках Берлінскага палітычнага біенале), Амстэрдам, Вена, Кракаў ды іншыя. З такой ідэяй і так далёка я ехаў упершыню. Гэта было «ралі» на машыне, пазначанай спецыяльнай сімволікай маршруту. Частка выступаў адбывалася ў цэнтральных кавярнях. Гаворка на тэмы беларускіх «чорных спісаў» і палітзняволеных з гледачамі ішла праз песні, на эмацыйным узроўні. Звычайна на такія тэмы выказваюцца палітыкі, а тут прыехаў нейкі дзядзька, які досыць простымі словамі распавядае пра ўласны досвед і сітуацыю ў Беларусі — «страшылкі» гэткія прывёз! Мы рыхтавалі англійскую версію маіх выступаў, але былі і перакладчыкі эмацыйнай часткі. Асноўная мэта турнэ — распавесці жыхарам еўрапейскіх краін, навошта нам патрэбная іх салідарнасць, а таксама запісаць на відэа іх меркаванні, крытыку, што заўгодна пра сітуацыю ў Беларусі. Шмат хто кажа, што мы нікому не патрэбныя, але гэта не значыць, што не трэба грукацца ў чужыя дзверы.

***— Ці здолелі прыцягнуць увагу еўрапейцаў да праблемаў Беларусі, і якая была публіка?***

— Так, усё атрымалася. Мы паразмаўлялі з досыць эклектычнай публікай, запісалі звароты людзей, «празвінелі» ў мясцовай прэсе.

***— Хто ладзіў гэтую акцыю?***

— Дапамагалі на месцах нашы агульныя знаёмыя, ці (як, напрыклад, у Аўстрыі і Нідэрландах) мясцовая «Amnesty International».

***— Дарэчы, ці пагодзіцеся з выракам гэтай міжнароднай арганізацыі не лічыць Сяргея Каваленку вязнем сумлення?***

— Мяркую, менавіта Каваленка мае поўнае права называцца вязнем сумлення. На жаль, у «Amnesty International» крыху дзіўныя крытэрыі, але я спадзяюся, што яны і без націску звонку нешта зразумеюць і перагледзяць.

## «Добра, што пашпарт яшчэ не забралі»

***— Наколькі цяжка карміць сям'ю артысту, які знаходзіцца ў згаданым «чорным спісе»? Апошні ваш канцэрт у Мінску адбыўся на ўправе БНФ, а ўваход на яго быў вольным.***

— Па-першае, ёсць прыватныя выступы — на карпаратывах, святкаваннях народзінаў. Іх няшмат, але ж я — дасведчаны артыст, з 1995 года працую на сябе. Пры гэтым я — самы забяспечаны беларускі артыст у плане жылля, аўтамабіля, перспектываў (смяецца). Пры існуючых абставінах можна падумаць пра творчасць, а не толькі пра грошы.

Але мне гэты «чорны спіс» — во дзе! (дакранаецца рукой да горла) Мы такія «дурылкі» для ўладаў, з якімі можна рабіць, што заўгодна! А палезеш на ражон — атрымаеш дубінай па галаве, могуць пасадзіць. Але гэта ўжо дадатковы піяр. Я сябе ўтульна адчуваў у ролі лірыка, спакусніка жаночых сэрцаў, які спакойна збірае лагодную беларускамоўную, і не толькі, публіку. Канцэрты шэсць разоў на год, чым не кожны можа пахваліцца... А зараз гэтых шасці канцэртаў у мяне няма, плюс — яшчэ чатырох дадатковых у клубе «Графіці». Таму даводзіцца выкручвацца, нешта прыдумляць. Добра, што пашпарт яшчэ не забралі, ездзіць магу. Калі забяруць, буду займацца агра-экатурызмам — маю сядзібу на Нёмане (смяецца).

***— Варта чакаць адмены «чорных спісаў» для музыкаў ці не?***

— Не. Выразна было сказана міністрам Праляскоўскім, што лібералізацыі не будзе. Мы для іх — частка пятай калоны. Паўгода таму адна афіцыйная крыніца мне паведаміла, што я для рэжыму — вораг нумар два. На першым — гурт Міхалка. Усе гуртамі, а я — асобна: «Дмитрий Войтюшкевич, певец». Такія вось часы... Праваслаўнаму, трэба скарыцца.

***— Ходзіце як вернік на споведзь?***

— Хрышчоны ў праваслаўі, наведваю царкву, але ніколі не быў на споведзі, вялікі грэшнік. Дзеці мае — таксама праваслаўныя, жонка іх водзіць на прычасце.

## Свае ці чужыя?

***— Над якім праектам зараз працуеце? Калі чакаць новага альбому «WZ-Orkiestra»?***

— Працую над польскім альбомам на вершы паэта Рафала Ваячэка ў перакладзе Андрэя Хадановіча. 90 адсоткаў матэрыялу для альбому падрыхтавана, застаецца дызайн вокладкі. Увосень мы ўжо заспяваем альбом, але пакуль не вядома, у якім фармаце — ці будзе гэта інтэрнэт-прэзентацыя альбо падпольны, андэграўндны фармат, і ў якой зале. Альбом — «доўгабуд», бо рабіў яго доўгі час, паралельна з іншымі праектамі. Усё чакаў грошай ад палякаў, не дачакаўся і вырашыў выдаць за свае. 12 песняў на словы польскага паэта, які скончыў жыццё самагубствам у 1971 годзе, адлюстроўваюць цікавы перыяд Польшчы 1950–1960 гадоў. Мы — першыя з беларусаў, хто ўзяўся спяваць ягоныя вершы. Артысты павінны адчыняць для астатніх людзей літаратурную раскошу іншых краінаў. Спадзяюся, што праз 10–20 гадоў нехта ў Смаленску ці ва Уладзівастоку возьме ў рукі томік нашага Багдановіча ці Хадановіча і зробіць праект, прысвечаны незразумелай, далёкай ці блізкай Беларусі.

***— Наколькі рэальна стаць «сваімі» для Еўропы? Ці лыжнік безнадзейна адстаў?***

— Паводле майго так званага «еўрапейскага маніторынгу» магу сказаць, што мы спазняемся гадоў на 30, і ў культурных працэсах таксама. Талентаў у нас хопіць і на Расію, і на Захад, але безнадзейнае жыццё і пакора... Зараз разумею, чаму Васіль Быкаў напрыканцы жыцця быў такім песімістычным.

***— Ён не бачыў выйсця для краіны?***

— Відаць, што не.

***— Стужка па Быкаву «У тумане» Сяргея Лазніцы — прыклад таго, што можна здымаць сапраўды беларускае кіно, а не аперэтачных партызанаў...***

— Нашы артысты апранаюць гімнасцёркі і спяваюць «Зямлянку» — вось і ўся вайна... Лічу, варта пісаць песні самім, паглыбляцца ў тэму. Канешне, прасцей вылізаць Мінск і ганарыцца гэтым. Ведаеце, Амстэрдам — таксама вельмі чысты горад, і паху дазволеных наркотыкаў я там не адчуў.

## Нябачная краіна сэкс-турызму

***— Чаго не хапае Мінску да ўзроўню культурнай еўрапейскай сталіцы?***

— Я бачу чысты Мінск і новабуд. А старабуду няма! Калі ёсць, то гэтыя будынкі загнаныя, як і музыкі, у адмысловыя «чорныя спісы». Канешне, расійскую дэлегацыю можна напаіць, накарміць, звазіць у Белавежскую пушчу, потым пакатаць па Мінску, і яны будуць захапляцца: «Ой, какой прекрасный город! Какие хорошие люди!» Але сапраўдных турыстаў новабудам сюды не зацягнеш. Хіба толькі сэкс-турызм квітнее, але пра яго ў нас не прынята казаць.

***— Апрача сэкс-тураў, што ведаюць пра Беларусь на Захадзе?***

— З большага ўжо нешта ведаюць. Але вось выпадак. Тры гады таму, у адной з вялікіх еўрапейскіх краінаў прыйшоў я ў пункт сувязі, каб патэлефанаваць дадому. Пачаў шукаць у тоўстым даведніку код радзімы. Там былі Бангладэш, Бірма, што заўгодна, акрамя Беларусі. Нібыта нас не існуе. Вось такая дробязь. Нашая правінцыйнасць — увесь час глядзець: што там робіць Старэйшы Брат, які мае грошы? Калі іх падкіне? Так прасцей — быць у рэчышчы чужых працэсаў. І тое, што новы фільм па Быкаву — не беларускі, таксама частка нашай правінцыйнасці. Патрэбна галава, якая будзе думаць пра Беларусь, пра тое, як вяртаць эліту з-за мяжы.

***— Ценявы ўрад, ідэя палкоўніка Барадача?***

— Не хачу паглыбляцца ў гэты гушчар, але працэсы пайшлі. Напрыклад, творчыя. У Лондане, куды не кожная птушка даляціць, амаль аднагачасова выступілі два лепшых беларускіх тэатра — імя Янкі Купалы і «Вольны тэатр». Апошні паставіў «Караля Ліра». Кажуць, някепска! І па-беларуску! «Купалаўцамі» нашае міністэрства культуры хацела паказаць, што ў нас ёсць і нармальнае мастацтва. Вось гэта цікава! Працэс пайшоў! А пра Барадача не ведаю, няхай самі разбіраюцца.

## Да Эрыксанаў. Як Пушкін

***— Ну, з тэатрам, дзякуючы высілкам Халезіна і Пінігіна, больш-менш зразумела. А як далёка Беларусь знаходзіцца ад сусветных музычных працэсаў?***

— Ад папулярнай — гадоў на сто! Электронная музыка квітнее, цяжкая — таксама ездзіць па міжнародных фэстах. Дакладна ведаю, што па world-music, ці так званаму сучаснаму фальклору, мы — у авангардзе Еўропы: дудары, былыя «Крыві», «Гаротніца», «Троіца», «Osimira» і «WZ-Orkiestra», між іншым. Калісьці «Крыві» выйгралі Гран-пры на вялізным фэсце «Музыка свету» ў Берліне, у якім бралі ўдзел 200 гуртоў, выступалі людзі нашмат прафесійней за нас. Чаму так адбываецца? Мы ж пра сваё спяваем. Што можа быць цікавейшым?

***— Куды плануеце наступную вандроўку?***

— Праз два тыдні еду ў Готланд, у Швецыю. На сямейны адпачынак да Эрыксанаў: амбасадар Швецыі і ягоная жонка — хросныя маіх сына і дачкі. У нас са Стэфанам вельмі добрыя, цёплыя адносіны, таму, што амбасадараў шмат, а...

***— А Зміцер Вайцюшкевіч — адзін?***

— Не! (рагоча) З «эга» ў мяне праблемаў няма. Я, нібыта Аляксандр Сяргеевіч Пушкін, «хвалу и клевету приемлю равнодушно».

Асноўная мэта турнэ — распавесці жыхарам еўрапейскіх краін, навошта нам патрэбная іх салідарнасць, а таксама запісаць на відэа іх меркаванні пра сітуацыю ў Беларусі

ПАМЯЦЬ

# НКУС СУПРАЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПАДПОЛЛЯ

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**У пачатку Другой сусветнай вайны асноўнай сілай антыгітлераўскага падполля была Армія Краёвая (АК), што падпарадкоўвалася польскаму ўраду ў эміграцыі. Пасля вызвалення Чырвонай Арміяй польскіх тэрыторый ад германскай акупацыі барацьбу з АК вялі ўжо не немцы, а вайсковая контрвыведка «СМЕРШ», войскі НКУС СССР, а таксама карныя органы прасавецкай польскай улады.**

Яшчэ ў маі 1944 года — да ўваходу Чырвонай Арміі на тэрыторыю Польшчы ў яе пасляваенных межах — дырэктыва намесніка наркама ўнутраных спраў СССР камісара дзяржбяспекі 2-га рангу І.А. Сярова і начальніка войскаў НКУС па ахове тылу генерал-маёра І.М. Гарбацюка папярэджвала камандзіраў часцей і злучэнняў унутраных і памежных войскаў, што на тэрыторыі, якую планавалі вызваліць ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў улетку 1944 года, «варожыя да нас групы насельніцтва» будуць рабіць спробы «ў зручны момант ударыць нам у спіну».

Да «варожых» былі аднесены ўсе польскія ўзброеныя арганізацыі, што падпарадкоўваліся польскаму ўраду ў эміграцыі.

20 ліпеня 1944 года штаб войскаў НКУС па ахове 3-га Беларускага фронту (3 БФ) выдаў загад затрымаць асобаў, якія належалі да вайсковых фармаванняў польскага ўраду ў эміграцыі.

Відавочна, што ў гэтым загадзе ўвасобіўся досвед аперацыі, праведзенай за 2–3 дні да гэтага: былі акружаны і захоплены змагары аб'яднанай групоўкі Віленскай і Навагрудскай акругаў АК, якія разам з войскамі 3 БФ актыўна ўдзельнічалі ў вызваленні Вільні ад немцаў. Іх абяззброілі і пад канвоем 86-га памежнага палка накіравалі на зборны пункт у мястэчка Меднікі, а затым адправілі ўглыб СССР. Адзначым, што падраздзяленні 86-га памежнага палка адкрывалі агонь на паразу пры непадпарадкаванні і спробах уцёкаў канваяваных змагароў АК.

У ліпені 1944 года былі раззброены яшчэ некалькі груп польскага Супраціву, хоць атрады АК у той час яшчэ не пачалі актыўна процідзейнічаць мерапрыемствам савецкіх органаў. Кіраўніцтва Арміі Краёвай у гэты перыяд ставілася да СССР (пры ўсім недаверы і варожасці да яго) дастаткова лаяльна — як да ўдзельніка антыгітлераўскай кааліцыі («саюзнікі нашых саюзнікаў»), узброеныя дзеянні супраць якога дапушчальныя толькі ў якасці самаабароны пэўнага атрада ад нападу.

У жніўні войскі НКУС актывізавалі дзеянні супраць атрадаў АК. Дырэктыва штаба войскаў НКУС па ахове тылу 3 БФ прадугледжвала не толькі знішчэнне гэтых фармаванняў узброеным шляхам, але і стварэнне агентуры, на якую ўскладвалася задача развальвання падпольных атрадаў знутры. На агентурную сетку звярталася адмысловая ўвага, бо шматлікія аперацыі па ліквідацыі атрадаў АК правальваліся менавіта з-за няведання сітуацыі.

У кастрычніку 1944 года фармуецца Зводная стралковая дывізія ўнутраных войскаў НКУС, галоўнай задачай якой стала барацьба з польскім нацыянальным падполлем. 14 кастрычніка Зводная дывізія пад камандаваннем генерал-маёра Б. Серабракова пачала сваю аператыўную дзейнасць. У склад дывізіі ўвайшлі 2-і, 11-ы, 18-ы і 98-ы памежныя палкі, 145-ы стралковы полк унутраных войскаў, 198-ы асобны мотастралковы батальён унутраных войскаў. Пасля ў розныя часы да дывізіі належалі і іншыя злучэнні, у прыватнасці, 338-ы памежны полк, 267-ы полк унутраных войскаў, дывізіён бронецягнікоў.

У кастрычніку-лістападзе 1944 года актыўныя дзеянні фармаванняў АКназіраліся найперш у Беластоцкім ваяводстве. У лістападзе супраць іх была праведзена буйнамаштабная аперацыя сіламі адмыслова сфармаванай Беластоцкай аператыўнай групы войскаў НКУС, у склад якой увайшлі некалькі палкоў памежных і ўнутраных войскаў.

Баявыя дзеянні супраць паўстанцкіх атрадаў вяліся, аднак насельніцтва, як правіла, падтрымлівала АК. У выніку аперацыі падполлю былі нанесеныя страты, а ў сярэдзіне снежня 1944 года Беластоцкую аператыўную групу расфармавалі.

Групы АК дзейнічалі не толькі ў новых межах Польшчы, але і ў Заходняй Беларусі. Змагары АК паспяхова выкарыстоўвалі досвед партызанскай вайны супраць немцаў, набыты ў 1940–1944 гадах, і процідзейнічалі мерапрыемствам па ўсталяванні савецкай улады ў Брэсцкай, Баранавіцкай і Маладзечанскай абласцях.

У адным з выяўленых дакументаў НКУС адзначалася, што «белапольскія фармаванні <...> маюць за мэту здзейсніць шэраг тэрарыстычных актаў над прадстаўнікамі савецкай улады і саўпартактыву». Напачатку лютага 1945 года тры палкі 58-й стралковай дывізіі НКУС акружылі і разграмілі атрады Геруса і Васілеўскага, якія базаваліся ў Казлоўшчынскім і Дзятлаўскім раёнах Баранавіцкай вобласці. У выніку аперацыі 34 удзельнікі гэтых атрадаў былі забіты, 109 — зняволеныя.

Адначасова з карнымі аперацыямі войскаў НКУС супраць падпольных лясных атрадаў ажыццяўляліся масавыя арышты ўдзельнікаў падполля. 9 мая 1945 года буйны атрад АК здзейсніў напад на Граева Беластоцкага ваяводства, разагнаў гарадскую адміністрацыю польскага часовага ўрада, забраў усе каштоўнасці з банку, вызваліў з турмы зняволеных.

Улетку 1945 года ўнутраныя войскі НКУС працягвалі актыўныя



карныя дзеянні супраць атрадаў польскага Супраціву — толькі часці 64-й стралковай дывізіі ў гэты перыяд правялі больш за 25 аперацый па іх ліквідацыі. Праўда, не заўсёды паспяховых. Аднак і кіраўніцтва падполля ўсведамляла немагчымасць працягваць шырокамаштабную партызанскую дзейнасць — адбілася моцная стомленасць насельніцтва ад вайны, панесеныя ў папярэднія гады велізарныя людскія страты, а таксама масіраваны тэрор з боку войскаў НКУС і польскіх карных органаў.

У 1944–1946 гадах у Беларусі АУН-УПА-АК здзейснілі, паводле інфармацыі НКУС, 2 384 дыверсіі і тэрарыстычныя акты, у выніку якіх загінула 1 032 чалавека. НКУС у адказ прыняў жорсткія меры.

За 1944–1946 гады ў рэспубліцы было праведзена 4 596 аперацый, накіраваных супраць украінскага, польскага і беларускага нацыяналістычнага падполля. Пры гэтым толькі ў 1946 годзе было забіта 3 766 чалавек, арыштавана — 19 050.

З 15 студзеня па 20 лютага 1945 года ў Брэсцкай і Пінскай абласцях праводзіліся т. зв. чэкісцка-вайсковая аперацыя «па ліквідацыі контррэвалюцыйнага паўстанцкага падполля, бандгруп мясцовага фармавання, а таксама ліквідацыі банд УПА». Было акружана 839 населеных пунктаў, ператрэсена 48 799 двароў, праверана 16 5137 чалавек, прачасана 12 тысяч квадратных метраў лясоў і балот.

У выніку былі разгромлены 33 узброеныя групы і атрады. Забіта 98 і арыштавана 3 808 чалавек, 55 — здаліся ў палон.

Актыўны ўдзел у правядзенні карных акцый бралі ўнутраныя войскі. На 1 студзеня 1946 года штаб 226-га палка знаходзіўся ў Мінску, астатнія падраздзяленні — у Глыбокім, Дзяржынску, Бабруйску і Бабруйскім раёне. Да 1947 года дыслакацыя палка значна пашырылася: у Мінску знаходзіліся 8 узводаў, Барысаўскім раёне — 6, Гомельскай вобласці — 5, Магілёўскай — 3, Віцебскай — 10, Гродзенскай — 1, Бабруйску — 3, Вялікіх Луках — 3, на Полаччыне — 3. Колькасць палка вырасла з 1 300 да 2 300 чалавек.

Са жніўня 1945-га да студзеня 1946 года ў Беларусі ўнутраныя войскі правялі 2 580 карных аперацый, падчас якіх было захоплена 1 800 палонных.

У барацьбе з падполлем актыўна выкарыстоўваўся 287-ы стралковы полк НКУС. 18 чэрвеня 1946 года полк быў перададзены ў склад 7-й мотастралковай дывізіі ўнутраных войскаў.

Толькі за 1947 год вайскоўцамі 287-га стралковага палка было захоплена і знішчана 475 чалавек, знойдзены 503 адзінкі агнястрэльнай зброі.

У сакавіку 1946 года НКУС СССР быў перайменаваны ў МУС СССР. Адпаведна, змяніліся і назвы падпарадкаваных яму вайсковых упраўленняў.

У студзені 1947 года ўнутраныя войскі (часці аператыўнага прызначэння) са складу МУС былі перададзены Міністэрству дзяржаўнай бяспекі (МДБ) СССР, а канвойныя войскі засталіся ў падпарадкаванні МУС СССР.

Праз год, 6 красавіка 1948-га, у склад МДБ СССР былі перададзены і спецыяльныя часці, якія здзяйснялі ахову важных аб'ектаў дзяржавы, але ў сакавіку 1953 года яны зноў увайшлі ў склад МУС СССР.

Унутраныя войскі ў гэты перыяд (як складовая частка МДБ СССР і яго ўзброеная сіла) забяспечвалі мерапрыемствы органаў савецкай выведкі па ліквідацыі нацыянальнага супраціву, удзельнічалі ў акцыях, якія праводзілі органы дзяржаўнай бяспекі.

Да 1950–1951 гадоў 26 палкоў унутраных войскаў МДБ СССР дыслакаваліся ў заходніх абласцях Украіны, у Беларусі і Прыбалтыйскіх рэспубліках.

Для барацьбы з нацыянальным супрацівам, што ўсё яшчэ дзейнічаў на тэрыторыі рэспублікі, актыўна прыцягваўся 287-ы стралковы полк. Штаб палка і спецпадраздзяленні дыслакаваліся ў Мінску. Тут і знаходзілася і 9-я рота, якая ахоўвала ўрадавыя аб'екты. 1-ы стралковы батальён быў у Пінску, 2-і — у Кобрыне, 3-і — у Навагрудку.

Паводле органаў МДБ, на 1 кастрычніка 1951 года ў заходніх абласцях Беларусі дзейнічалі 13 узброеных груп, якія здзейснілі 8 тэрарыстычных актаў.

Летам 1949 года падраздзяленні палка бралі ўдзел у ліквідацыі атрада «Волк», у верасні 1951-га — у чэкісцка-вайсковай карнай аперацыі ў Вялікім Казянскім лесе Полацкай вобласці, падчас якой было захоплена 32 удзельнікі супраціву, у лютым 1952 года ліквідавалі атрад «Сікоры» ва ўрочышчы Урбаны ў Пінскай вобласці.

Усяго ж асабовым складам палка ў перыяд з 1944 па 1954 год было «ліквідавана (забіта, захоплена, затрымана); шпіёнаў — 40 чал., бандытаў — 1 539 чал., іншых (злодзеяў, дэзерціраў і г.д.) — 3 7461 чал.».

З 1951 па 1960 год 226-ы полк выконваў задачы па ахове МДБ, лагеру ваеннапалонных і будынкаў МУС, ажыццяўляў канваяванне ваеннапалонных на працы па аднаўленні прамысловых прадпрыемстваў і жылых дамоў Мінска, канваяванне зняволеных на тэрыторыі БССР і за яе межамі, а таксама канваяванне і ахову падсудных у судовых установах у Мінску, Віцебску, Маладзечне, Полацку, Гомелі.

6 мая 1951 года ў адпаведнасці з пастановай урада СССР унутраныя войскі рэарганізуюцца ва ўнутраную ахову МДБ СССР, канвойныя войскі — у канвойную ахову МУС СССР.

Былі скасаваны войскі па ахове прадпрыемстваў прамысловасці і чыгункі, іх функцыі перададзены ваенізаванай ахове.

З гэтага моманту дывізія стала называцца аддзелам, полк — атрадам, батальён — дывізіёнам, рота — камандай, узвод — групай, з даваннем словаў: у падпарадкаванні МДБ — унутраная ахова, у МУС — канвойная ахова. У адпаведнасці з гэтым 37-я канвойная дывізія пераўтворыцца ў 12-ы атрад канвойнай аховы. 287-ы стралковы полк быў перайменаваны ў 21-ы атрад унутранай аховы, які ў лютым 1954 года ўвайшоў у склад 12-га аддзела, а ў канцы 1954 года быў перафармаваны ў 45-ы асобны мотастралковы батальён. 226-ы полк стаў 70-м атрадам. Былі перайменаваны і іншыя часці дывізіі.

З 1951 года падраздзяленні ўнутраных войскаў Беларусі бралі ўдзел у правядзенні карных акцый па высяленні часткі насельніцтва з тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Першая пасляваенная аперацыя па высяленні праводзілася з 2 чэрвеня па 2 жніўня 1951 года. За гэты перыяд у Іркуцкую вобласць выселілі 1 024 сям'і (каля 4 000 чалавек), а іх маёмасць была канфіскаваная.

У красавіку 1952 года адбылося другое масавае высяленне «ворагаў народа», якое праводзілася ў адпаведнасці з пастановай СМ БССР № 436 ад 7 красавіка 1952 года. Гэтым разам 1 065 сем'яў агульнай колькасцю 5 000 чалавек па этапе былі адпраўлены на спецпасяленне.

Пасля аб'яднання ў сакавіку 1953 года Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства дзяржаўнай бяспекі ў МУС СССР адбываецца рэарганізацыя ўнутраных войскаў. У сістэме МУС СССР ствараецца Галоўнае ўпраўленне ўнутранай і канвойнай аховы, а ў чэрвені 1956 года яно зліваецца з Галоўным упраўленнем памежных войскаў у адзінае Галоўнае ўпраўленне памежных і ўнутраных войскаў.

Годам пазней памежныя войскі перадаюць пад юрысдыкцыю ўтворанага ў сакавіку 1954 года Камітэта дзяржаўнай бяспекі, а ў складзе МУС СССР на базе Галоўнага ўпраўлення ўнутранай аховы і Галоўнага ўпраўлення канвойнай аховы фармуецца адзінае Галоўнае ўпраўленне ўнутранай і канвойнай аховы.

**ДАБРАЧЫННАСЦЬ**

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

**ЛАДУШКА — метыс нямецкага аўчара**



Галоўнае, што яна мае ад гэтай пароды, — розум і здольнасць да навучання. Але і знешнасць у яе ладная. Ладушка была бадзяжнай і разгубленай, пакуль не сустрэла валанцёраў. У часовым доме паводзіць сябе ідэальна: не брэша, не псуе маёмасць, не прэтэндуе на канапу і трывае да выгулу. І гэта нягледзячы на юны, дурасліві ўзрост — ёй няма і года! Да іншых сабак і котак ставіцца прыязна, людзей вельмі любіць. Відаць, імкнецца спадабацца і знайсці свой самы лепшы дом. Гэта ідэальны сямейны сабака!

Ладушка ўжо стэрылізаваная і гатовая да прыстройства. Распавесці вам пра гэтую цудоўную дзяўчынку можа валанцёр Вольга, тэлефануйце: 8-029-7039064.

**ШЛЯХТА — вышталцоная паненка для сапраўдных эстэтаў**

Мае шыкоўнае трохкаляровае футра, так званага колеру «чарапашка», не стоадсоткавая, але персідская котка з жоўтымі вочкамі і носікам у крапінку. Таму вельмі не зразумела, чаму такую раскошу здалі ў пункт адлову на



Гурскага. Бо апроч прыгажосці адчуваецца, што прыцягальная Шляхта абавязкова прыцягне за хвост удачу ў ваш дом! Котачка ўжо стэрылізаваная, ходзіць у латочак. Як усе шляхетныя паненкі — спакойная і годная.

Калі Шляхта Вас зачаравала — адразу тэлефануйце валанцёру: 8-027-7788585 (Галіна).

**ПАМЯЦЬ**

# ЗАБЫТЫЯ МАГІЛЫ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Днямі вырашыў паехаць на радзіму пачынальніка беларускай дзіцячай драматургіі, нашаніўца Кандрата Лейкі (1860–1921) у вёску Збочна Слонімскага раёна.**

Вёска знаходзіцца далёка ад майго Слоніма, але бываць там люблю, бо гэтыя прыгожыя мясціны проста захапляюць. Там некалі любіў бываць і Уладзімір Караткевіч з Алегам Лойкам. Маляўнічыя мясціны з казачным Бяздонным возерам, недаследаваным старым гарадзішчам, ціхімі вуліцамі Збочна, дзе і нарадзіўся, гадаваўся і вучыўся ў Азярніцкім вучылішчы Кандрат Лейка.

Недалёка ад гарадзішча вясковец варочаў сена. Падышоў да яго, пазнаёміўся.

— Міхаіл Лейка, — назваў сябе вясковец.

— Можа, вы далёкі сваяк Кандрата Лейкі? — пытаюся.

— Можа і сваяк, не ведаю. Чуў, што быў такі пісьменнік — Кандрат Лейка. А вось што ён напісаў — не чытаў, — апраўдваўся Міхаіл Лейка.






— А ці ведаеце, дзе знаходзіцца магіла маці Кандрата Лейкі?

— Не, не ведаю. У Збочна шмат старых магіл на могілках, пашукайце там, — параіў вясковец.

На гэтым мы развіталіся, і я паціху пайшоў на могілкі. Каля царквы, а яна знаходзіцца на самых могілках, здалёк кінулася ў вочы прыгожая — старая і вельмі дарагая на той час — каваная чыгунная агароджа. Помнік на магіле разбіўся. Падняў з зямлі ўцалелую шыльду і… вачам сваім не паверыў — гэта ж магіла маці Кандрата Лейкі. На ёй прачытаў: «*Здесь покоится прах рабы Божей Таклюси Лейко 62 л. 18 января 1881 г. Дорогой матери от любящих детей*».

Па частках неяк злучыў помнік, каб хоць яго сфатаграфаваць. Усё ж ён прастаяў 130 гадоў. Калі памерла маці, Кандрату Лейку быў 21 год. Ён тады працаваў настаўнікам у Косаве. У моцную завіруху на санях Кандрат дабіраўся ў родную вёску. Маці застаў яшчэ жывой, але нічым дапамагчы ёй ужо не змог. Яна вельмі хацела жыць, каб пабачыць, які лёс напаткае яе вучонага сына. А лёс у сына быў трагічны.

Кандрат Лейка прысвяціў сваёй маці некалькі апавяданняў. Ён вельмі любіў сваю матулю і шчыра давяраў ёй, моцна захапляўся яе высокай маральнай чысцінёй і справядлівасцю, яе прыроднымі разумовымі здольнасцямі. У адным з апавяданняў, якое называецца «Таклюся-сухотніца», Кандрат Лейка стварыў вобраз сваёй маці — простай сялянкі, якая ў апавяданні ўзнімала найважнейшыя праблемныя пытанні таго часу: «Перад Таклюсяю цяпер неразгаданаю загадкаю стаялі тры цікавыя пытанні. Калі паміж людзьмі будзе праўда? Ці дадуць калі-небудзь беднякам зямлі? Калі ўсім людзям дазволена будзе вучыцца і маліцца на сваёй роднай мове?»

Пазней удзячны сын разам са сваімі сваякамі паставіць на магіле маці ў Збочна помнік. І на ім напіша: «Таклюся Лейко». Напіша так, як яе звалі вяскоўцы. А вось пытанні, узнятыя Таклюсяю сто гадоў таму, застаюцца надзённымі і сёння. І калі ж мы на іх адкажам?.. І хто дагледзіць, адрамантуе магілу маці пачынальніка беларускай літаратуры?..



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 534

Падпісана да друку 8.06.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.